ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №97 (4454) СЕРАДА, 30 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёння.
Толькі сёння Вы яшчэ маеце магчымасць стаць падпісчыкам адзінага ў нашай краіне перыядычнага выдання, якое выражае інтарэсы работнікаў адукацыі**

## НГ-ІНФАРМ

### ШКОЛЬНЫЯ БУДНІ ВАЧЫМА МАСТАКА




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

СЕМІНАРЫ

### Ці абаронім здароўе нацыі?

**Упраўленне аховы здароўя, упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама і мінскі гарадскі Цэнтр здароўя правялі семінар для намеснікаў дырэктараў і медыцынскіх работнікаў сярэдніх школ і ПТВ Мінска на тэму "Маральна-гігіенічнае і палавое выхаванне, прафілактыка СНІДу і венерычных захворванняў".**

Вялікую цікавасць у прысутных выклікалі выступленні загадчыцы 4-й жаночай кансультацыі Тамары Гусевай на тэму "Сексуальнае выхаванне моладзі", дарадчыка па медыцынскіх пытаннях АТ "Шэрынг" (Германія) Надзеі Шчурэвіч "Праблемы сям'і", урача Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Наталлі Фірсавай "СНІД і сям'я", загадчыка філіяла гарадскога скурна-венералагічнага дыспансера Рыгора Шыманскага "Венерычныя захворванні і моладзь", загадчыцы процізпідэміялагічнага аддзела гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Святланы Крэтавай "Дыфтэрыя і яе прафілактыка".

Семінар паказаў, што вынесеныя на яго пытанні — архіактуальныя для выхавання здаровай нацыі. Таму абмеркаванне падобных праблем важна не толькі для спецыялістаў — кіраўнікоў розных узроўняў і накірункаў, але і для ўсяго насельніцтва Беларусі.

Юрый АРСКІ.

## НА МЯЖЫ ВЫЖЫВАННЯ

**23 лістапада адбылася сустрэча прэзідэнта Беларусі А.Р.Лукашэнкі з актывам беларускіх прафсаюзаў, на якой выступіла і старшыня Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Т. І.Чобатава. Мяркуем, што педагагічнай грамадскасці цікава ведаць яе выступленне.**

— Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Вас, актыўнага прыхільніка прыярытэтнага развіцця інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі і змагара за інтарэсы настаўніцтва яшчэ падчас дэпутацкай дзейнасці ў Вярхоўным Савеце, няма неабходнасці пераконваць у тым, што галоўным і апошнім востравам стабільнасці і згоды ў грамадстве з'яўляюцца ўстановы адукацыі: дзіцячыя сады, школы, ПТВ, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

І я не магу не данесці да вас усёй нашай заклапочанасці і трывогі тымі разбуральнымі працэсамі, якія ўсё больш ахопліваюць кола адукацыі. Назаву толькі некаторыя.

Катастрафічна скарачаецца сетка дзіцячых дашкольных устаноў. За апошнія тры гады зачынена 461 дашкольная ўстанова. Прычым не толькі збяднеўшыя калгасы і саўгасы, але і прамысловыя прадпрыемствы ўсяляк стараюцца пазбавіцца ад іх ці перадаць на бюджэт мясцовых саветаў. Але сады і яслі — не рынкавы тавар.

Сёння большасць устаноў адукацыі не плацежаздольныя. Матэрыяльная база прыходзіць у заняпад. Раней набытае навучальнае абсталяванне старэе не толькі фізічна, але і маральна. А без гэтага немагчымы паўнацэнны адукацыйны працэс.

Практычна ва ўсіх рэгіёнах краіны затрымліваецца выплата заработнай платы, якая для работнікаў галіны з'яўляецца адзінай крыніцай даходу і сродкам існавання.

З дня ў дзень абвастраюцца кадравыя праблемы. Адток з галіны настаўнікаў, выкладчыкаў, выхавацеляў у апошні час набыў асабліва маштабны характар. Мы фактычна прыйшлі да таго, што работа з дзецьмі і моладдзю страціла ўсялякі эканамічны сэнс.

Мяркуйце самі: працуючы па шасцідзённым рабочым тыдні на 1,5 стаўкі, настаўнік зарабляе фактычна ўдвая менш, чым служачы ў прамысловасці. А калі да гэтага дадаць, што і зарплата служачых не пакрывае расходаў па мінімальным спажывецкім бюджэце, то стане ясна, да якога жабрацтва даведзены тыя, каму грамадства даверыла выхаванне сваёй будучыні.

Сёння проста абражальныя даплаты за ганаровыя званні народнага ці заслужанага настаўніка. Даплата першым — 10 рублёў, другім 6 рублёў. У гэта цяжка паверыць чалавеку са здаровым сэнсам. Бо пачак запалак у нас каштуе 46 рублёў, а разавы квіток на праезд у га-

(Працяг на 2-й стар.)

## ШТО ДУМАЕ НАСТАЎНІК

### КУДЫ КІНУЦЦА?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Прачыталі пісьмо настаўнікаў Амбрасавіцкай школы Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці ("НГ" ад 12 лістапада г.г.) і пазналі ў ім сваю няшчасную долю. Мы таксама знаходзімся ў такім жа цяжкім становішчы. Думалі, што бяда ўся ў тым, што жывём у глыбінцы Палесся, дзе амаль няма прамысловасці, а пагэтаму і ў бюджэце пуста, і мы праяўлялі свядомасць і цярпенне. Але ж цяпер бачым, што мы, вясковыя настаўнікі, не адны знаходзімся ў такім стане.

Мы таксама атрымліваем свой заробак з затрымкай на 1 — 2 месяцы. З'есць інфляцыя нашы грошы, тады і разлічаць нас. Напрыклад, з мая надбаўкі за праверку сшыткаў, класнае кіраўніцтва, пераразлік за летнія месяцы мы атрымалі разам са жнівеньскай зарплатай ажно 30 верасня. Зарплату за верасень нам выплацілі 3 лістапада. Дапамогу на дзяцей, чарнобыльскія (жывем у зоне) не атрымліваем па 3 месяцы. А адпускныя ўсё жыццё атрымліваем не так, як "белыя людзі". Напрыклад, у водпуск пайшоў з 1 ліпеня, а грошы атрымаеш 4 жніўня.

Сельскі настаўнік цяпер у адчаі, не ведае што рабіць, куды кінуцца. Добра таму, хто жыве недалёка ад "стадыёнаў", той хоць гандлем зарабляе на пражыццё. А як нам, што жывём у самым далёкім раёне Беларусі?

Мы салідарны з настаўнікамі Амбрасавіцкай школы: "Дакуль дзяржава будзе назіраць?" Хто нам адкажа на гэта пытанне?

Настаўнікі Хорскай сярэдняй школы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.
21 подпіс.

### ФАКУЛЬТАТЫЎ ПА ГІСТОРЫІ–ВА ЎСІХ КЛАСАХ

Калі я, малады настаўнік гісторыі, упершыню прыйшоў працаваць у школу, перада мной паўстала шмат праблем: як знайсці паразуменне са школьнікамі, якую метадычную і дадатковую літаратуру выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы да ўрокаў, дзе пазнаёміцца з педагагічнымі здабыткамі вопытных настаўнікаў, як арганізаваць дадатковыя заняткі, работу гуртка і г.д. Усе гэтыя пытанні вельмі хвалявалі і хвалююць мяне і цяпер.

Удасканаленне выкладання гісторыі ў школе і ў іншых навучальных установах вымагае ад настаўніка шукаць новыя метадычныя падыходы. Мне здаецца, што адным з іх з'яўляецца асаблівая ўвага да дакументаў і іншых першакрыніц. Неабходна, каб вучні ведалі аб іх існаванні, а таксама валодалі пэўнымі прыёмамі работы з імі. Праца з разнастайнымі гістарычнымі крыніцамі дапамагала мне стварыць у вучняў праўдзівае ўяўленне аб падзеях мінулага, фарміраваць гістарычную свядомасць. І мне здаецца, што пачынаць гэта трэба з пачатковай школы. Так, напрыклад, у некаторых школах ЗША дзеці з сямі гадоў вывучаюць гісторыю сваёй сям'і, складаюць сямейны герб.

Лічу, што для ўзмацнення гістарычнага кампанента адукацыі наспела неабходнасць увядзення ў школе факультатыву па гісторыі ва ўсіх класах. Гэта дапаможа падрыхтаваць вучняў да сістэматычнага вывучэння гісторыі як прадмета, абудзіць у іх цікавасць да гісторыі як навукі; пазнаёміць вучняў з метадамі гістарычнага даследавання і мовай гістарычнай навукі; пакажа разнастайнасць гістарычных крыніц і мажлівасць іх выкарыстання; навучыць вучняў пэўным прыёмам работы з гістарычнымі крыніцамі.

Я заўважыў, што павялічыць цікавасць да заняткаў па гісторыі могуць прыгодніцкія фабулы ў падачы матэрыялу.

Вывучэнне сусветнай гісторыі, на маю думку, не магчыма без цеснага вывучэння гісторыі роднага краю. Пагэтаму тут не абысціся без тапанімікі, без гісторыі яе ўзнікнення. Зацікавіць гэтай тэмай магчыма толькі тады, калі сам настаўнік будзе шмат ведаць. Лепш каб настаўнік матэрыял кожнай тэмы звязваў з матэрыялам сваёй мясцовасці. Наогул, лічу, любоў да сваёй Бацькаўшчыны нельга ўявіць без ведаў аб гістарычным мінулым свайго народа: яго перамог і няўдач, яго нацыянальных герояў і палітычных дзеячаў, таленавітых пісьменнікаў і філосафаў, помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Гістарычная памяць пэўнага этнасу выступае асноўным элементам нацыянальнай самасвядомасці. Яна дае пачуццё ўласнай годнасці і еднасці са сваім народам, дапамагае ўсвядоміць нацыянальныя каштоўнасці і ідэалы як свае асабістыя, так і месца свайго народа ў сусветнай гісторыі.

Але для таго, каб пачэснае прызначэнне гістарычнай адукацыі знайшло сваё здзяйсненне, патрэбна мяняць рашучым чынам прыярытэты ў змесце і напрамках выкладання гісторыі наогул і асабліва гісторыі Беларусі. Галоўная мэта сучасных змен у навучальна-выхаваўчым працэсе ў гісторыі, на мой погляд, стварэнне ўмоў для вывучэння і выкладання гісторыі Бацькаўшчыны такім чынам, каб даць магчымасць вучням, усім беларусам усвядоміць сябе ў якасці самастойнага народа, які мае вялікую гісторыю сваёй дзяржаўнасці, у якасці суб'екта і аб'екта агульнаеўрапейскага і сусветнага гістарычнага працэсу.

Валерый СТАНКЕВІЧ,
настаўнік Мяжанскай сярэдняй школы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці.

### ДЗЯКУЙ ТАБЕ, МАЯ ГАЗЕТА!

У дзяцінстве я вельмі хацела стаць настаўніцай і, каб як-небудзь бліжэй дакрануцца да гэтай святыні, будучы яшчэ вучаніцай 9-га класа Гярвяцкай сярэдняй школы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці, выпісала сабе "Настаўніцкую газету" на 1969 год. Шчыра дзякую настаўнікам гэтай школы, якія ўважылі мой выбар і не заставілі пераключыцца на "Комсомольскую правду" ці "Знамя юности", г.зн. на тыя газеты, якія выпісвалі ў той час усе маладыя людзі і якія патрэбны былі для палітінфармацыі.

Больш таго, у часы так званага застою, наша сям'я заўсёды выпісвала 2 экземпляры "НГ", бо муж мой таксама настаўнік (а тады кожны настаўнік школы павінен быў выпісваць сваю прафесійную газету). І ведаеце, нам падабалася. Адзін экземпляр мы маглі разразаць, класіфікаваць неабходны матэрыял, а другі — захоўваўся цалкам.

І яшчэ адзін штрых. У вёсцы пошту разносяць вечарам, калі школа ўжо закрыта. Пагэтаму школьныя газеты прыносяць мне, завучу школы (бо я, чытаючы свежую прэсу, адразу вяду картатэку патрэбных артыкулаў). І вось з вялікага стосу газет і часопісаў у першую чаргу я выбіраю "НГ", бо мне так не церпіцца даведацца пра навіны ў сістэме адукацыі.

Такім чынам, з "Настаўніцкай газетай" я сябрую ўжо 26 гадоў і за гэты час ні разу ёй не здрадзіла. Аналізуючы сёння сваю сувязь з любімай газетай, я прыходжу да наступнага вываду: можа таму, што я з 15 год, г.зн. з дзяцінства, удумліва ўчытвалася ў радкі розных педагагічных праблем, мне ў далейшым заўсёды было лёгка знайсці "ключык" да сэрца любога дзіцяці ў любой сітуацыі. Гэты факт дадатна ўплывае і на маю работу з педагагічнымі кадрамі.

Дзякуй табе, "Настаўніцкая газета" за навуку.

Юлія САКОВІЧ,
намеснік дырэктара Лучайскай базавай школы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці.

### КАНТОРА ПІША...

У жніўні, як вядома, пачалі плаціць педагогам за стаж, павысілі надбаўкі да ставак за працу ў школах-інтэрнатах. Аднак, як аказалася, не ўсім.

Тут спрацаваў эфект ранейшых падыходаў да напісання дакументаў. Сядзіць, скажам, чыноўнік у Міністэрстве працы і акуратна падстаўляе ў старыя радкі папер новыя лічбы. І не ведае ён, што нешта ўжо памянялася ў сістэме адукацыі.

Так, дарэчы, атрымалася з агульнаадукацыйнымі школамі-інтэрнатамі. Раней, калі дзейнічала саюзнае Палажэнне, яны былі школамі агульнага тыпу. Але з чэрвеня 1993 года пачало працаваць сваё, беларускае Палажэнне. У ім ужо не было школ-інтэрнатаў агульнага тыпу. А былі агульнаадукацыйныя інтэрнаты для дзяцей-сірот, а таксама для дзяцей з адхіленнямі ў паводзінах і ў сем'ях з неспрыяльнымі ўмовамі жыцця.

У Брэсцкай вобласці дзве школы для дзяцей-сірот і яшчэ дзве — для дзяцей з адхіленнямі ў паводзінах і з неспрыяльных, няпоўных сем'яў. Аднак калі педработнікам сіроцкіх школ-інтэрнатаў надбаўка да ставак за працу ў інтэрнатах падвоілася — з 40 да 80 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, то для педагагічных работнікаў агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў гэткая ж надбаўка паменшылася больш чым у паўтара раза — з 30 працэнтаў да 18-ці. І няважна для чыноўніка, што агульнаадукацыйных інтэрнатаў цяпер няма. І кантынгент у такіх школах-інтэрнатах зусім памяняўся, стаў не менш цяжкім і складаным, чым у сіроцкіх ці спецыяльных школах-інтэрнатах.

Дык хто ж паклапоціцца пра вырашэнне гэтай праблемы? Настаўнікі чакаюць умяшання Міністэрства адукацыі і навукі.

Павел БЕНЗЯРУК,
педагог.

### АЙСБЕРГ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫІ

У нашы дні галоўныя педагагічныя ідэі сканцэнтраваны на дыферэнцыяваным навучанні. На нарадах і педагагічных радах усё часцей гучаць не толькі заклікі, але нават і загады некаторых кіраўнікоў аб неабходнасці ўвядзення ў школах такога навучання ледзьве не з першага класа. І гэта было б добра, калі б менавіта вялося навучанне па схільнасцях і здольнасцях, што і прадбачыцца за гэтым тэрмінам. Але ж у практычнай дзейнасці школ за дыферэнцыяваным навучаннем утойваецца дыферэнцыяваная адукацыя, што далёка не адно і тое ж. Гэта азначае фармаванне класаў з вучняў па агульным развіцці ці іх падрыхтаванасці да школы па катэгорыях "добра падрыхтаваных", "падрыхтаваных", "слаба падрыхтаваных" і інш. А вось здольнасці навучэнцаў, іх інтарэсы да таго ці іншага канкрэтнага віду дзейнасці не ўлічваюцца, у чым, на маю думку, заключаецца асноўны недахоп дыферэнцыяцыі. Афіцыйна класы лічацца пад нейтральнымі літарамі "А", "Б", "В" і г.д., але сутнасць ад гэтага не мяняецца, бо два апошнія класы асуджаны на атрыманне непаўнацэннай адукацыі ў сілу таго, што яны ўкамплектаваны "маларздольнымі вучнямі".

Успомнім, што ў педагогіцы пад дыферэнцыяваным навучаннем разумеецца цэласная сістэма, якая ўключае ў сябе змест, формы, метады работы школы і вопыт асобных настаўнікаў, зарыентаваных на схільнасці і магчымасці вучняў, іх інтарэсы і запатрабаванні. Заўважым, што прынята адрозніваць унутраную і знешнюю дыферэнцыяцыю. Першая грунтуецца на індывідуальных здольнасцях і ўзроўні падрыхтаванасці кожнага вучня, другая праяўляецца ў арганізацыі напрамкаў, ухілаў, аддзяленняў, якія павінны камплектавацца з улікам жадання бацькоў і вучняў, а таксама рэкамендацыі настаўнікаў, класных кіраўнікоў і, пажадана, псіхолагаў. Выходзіць, дыферэнцыяцыя прадугледжвае максімальнае выяўленне і развіццё талентаў, здольнасцяў і прыродных задаткаў асобы. А калі такога падыходу няма, дык ці ж можна ўсхваляць навучанне, пры якім дзеці ўжо з першага класа тасуюцца на класы "моцных", "сярэдніх" і "слабых"? Пры гэтым выкарыстоўваецца самадзейны метад загадчыкаў навучальных частак і настаўнікаў без навуковага псіхалагічнага забеспячэння, бо дыдактычная тэорыя дыферэнцыяванага навучання пакуль што не створана, а псіхолагаў у школах як не было, так амаль што і няма.

Пры такой арганізацыі дыферэнцыяцыі ў пашане застаюцца толькі "моцныя" вучні. Яны псіхалагічна адчуваюць сябе на вяршыні "айсберга" і, як паказвае практыка, часта дабіваюцца добрых вынікаў у навучанні, бо між імі ідзе спаборніцтва ў ведах, адзнаках, разумовым развіцці. Ёсць у каго павучыцца, з каго браць прыклад. Але ж і ў такіх класах не ўсе вучні здольныя да ўсіх прадметаў. Адны моцныя па матэматыцы, другія па літаратуры, а трэція праяўляюць інтарэс і здольнасці да тэхнічнага накірунку ці выяўленчага мастацтва. Задаволіць усе запатрабаванні не заўсёды магчыма. Як быць, скажам, тым вучням, якія праяўляюць інтарэс да сусветнай мовы тэхнікі — чарцяжа. Паглыбленае вывучэнне гэтага прадмета нельга (не прадугледжана пералікам "ухілаў") арганізаваць нават пры вялікім жаданні вучняў і там, дзе ёсць матэрыяльныя магчымасці і высокапрафесійныя кадры.

Праўда, некалькі гадоў таму ў нашай школе было створана прафесійнае навучанне па машынабудаўнічым чарчэнні, якім было ахоплена 18 юнакоў старэйшых класаў. Яны атрымалі добрую падрыхтоўку па гэтым прадмеце, паспяхова прайшлі практыку на БСКБ аўтаматычных ліній і здалі прафесійны экзамен (17 з іх атрымалі адзнакі "5" і "4"). Ім разам з атэстатамі былі ўручаны пасведчанні аб прафесіі чарцёжніка. Пра гэта ў свой час пісала "НГ" (гл. артыкул "Пакарылі СКБ", змешчаны 13 лістапада 1991 года.). Але цяпер засталіся толькі ўспаміны ды работы навучэнцаў, якія я часта дэманструю сённяшнім вучням як узоры.

Прадбачу папраўку маіх апанентаў — маўляў, для гэтага ёсць гурткі, факультатывы. Але ж ці часта яны адпавядаюць жаданням і запатрабаванням саміх вучняў?

А што тычыцца "сярэдніх" і "слабых" класаў, дык атрымліваецца, як у той прымаўцы: "Чым далей у лес, тым болей дроў". Тут вучні з нізкім узроўнем развіцця і навучаемасці тармозяць развіццё больш падрыхтаваных. Практыка паказвае, што такіх вучняў нельга вучыць па адной і той жа праграме, падручніках і з той жа колькасцю вучняў, як і ў класах з добрай падрыхтаванасцю. Для гэтай катэгорыі дзяцей неабходна стварыць умовы, адпаведныя іх узроўню развіцця. А пры сённяшнім дыферэнцыяваным навучанні гаворка можа ісці, хутчэй, пра дыферэнцыяваныя адзнакі, калі настаўнік, заплюшчыўшы вочы, вымушаны ставіць "здавальняюча" нават тады, калі амаль няма зусім ніякіх ведаў.

Неяк ў пераказе вучаніцы 6-га класа, напісаным на адной старонцы школьнага сшытка, пры беглым аглядзе я заўважыў толькі адну выпраўленую памылку ў апошнім сказе. Слова "писто лет" было напісана паасобна. Настаўнік злучыў яго чырвонай рыскай і паставіў "здавальняюча". "Чаму ж такая нізкая адзнака?" — падумалася мне. А калі пачаў больш уважліва чытаць, дык налічыў каля трыццаці граматычных і сінтаксічных памылак...

Няхай у чытача не складзецца думка, што я выступаю супраць пошуку і выяўлення адораных дзяцей і стварэння для іх належных умоў для навучання і развіцця. Але гэтыя дзеці павінны быць сапраўды адоранымі, рана праяўляць высокі ўзровень развіцця здольнасцяў і схільнасцяў да таго ці іншага віду дзейнасці (выяўленчага мастацтва, літаратуры, музыкі і інш.). Вось для такіх дзяцей і патрэбна было б ствараць класы, дзе пры спрыяльных умовах жыцця, навучання і выхавання з іх у далейшым выраслі б таленавітыя матэматыкі ці мастакі, пісьменнікі ці даследчыкі прыроды, музыканты ці канструктары.

Такая дыферэнцыяцыя адпавядала б інтарэсам асобы вучня і ідэям дэмакратызацыі і гуманізацыі.

Аляксандр МАТЧЭНЯ,
настаўнік вышэйшай катэгорыі.

Баранавічы.

## ДЫЯЛОГ ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ

### ПЕРШЫ НАМЕСНІК МІНІСТРА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ГЕНАДЗЬ ПЯТРОЎСКІ СУСТРЭЎСЯ З ГРУПАЙ УДЗЕЛЬНІКАЎ ДЗІЦЯЧАГА ПАРЛАМЕНТУ

Па ініцыятыве беларускага дзіцячага фонду адбылося другое пасяджэнне дзіцячага парламенту, на якое сабраліся прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў краіны. Гэта — школьнікі, навучэнцы ПТВ, студэнты ВНУ, выпускнікі і выхаванцы дзіцячых сіроцкіх устаноў, пераможцы конкурсаў юных талентаў, лідэры дзіцячых і падлеткавых калектываў — неардынарныя, цікавыя асобы, магчыма будучыя заканадаўцы, міністры, вучоныя.

Дэлегацыі юных парламентарыяў пабывалі ў некаторых міністэрствах, навучальных установах, прадпрыемствах, у дабрачынным фондзе "Дзецям Чарнобыля" і іншых арганізацыях. Адна з груп юных парламентарыяў сустрэлася з першым намеснікам міністра адукацыі і навукі Генадзем Пятроўскім.

Якія праблемы хвалююць падлеткаў? Якімі дзеяннямі і ўчынкамі дарослых яны занепакоены? Якой бачыцца будучыня нашай Беларусі? Дзесяткі самых набалелых пытанняў абмяркоўвалі на сустрэчы юныя парламентарыі.

Перш за ўсё размова ішла аб паглыбленым вывучэнні беларускай мовы, гістарычнай спадчыны нашага народа, аб прафесіі настаўніка, якая павінна быць самай прэстыжнай. Падкрэслівалася, што зараз гарадскі вучань знаходзіцца ў больш выйгрышным становішчы, чым вясковы. У горадзе ёсць выбар школ: агульнаадукацыйныя, спецыялізаваныя, гімназіі, каледжы. Юны жыхар сельскай мясцовасці можа вучыцца толькі ў школе па месцы жыхарства, з недастатковай матэрыяльнай базай. І не выпадкова, што большасць выпускнікоў сельскіх школ не могуць вытрымаць уступныя экзамены ў прэстыжныя тэхнікумы і ВНУ.

Асаблівая ўвага ў час размовы была ўдзелена рабоце грамадскіх арганізацый. Напрыклад, раней дзяцей апякалі піянерская арганізацыя, камсамол, і хоць яны былі манапалістамі, аднак галоўную ролю ў выхаванні дзяцей і моладзі адыгрывалі.

А што зараз? Многія дзеці, падлеткі апынуліся на раздарожжы: куды падацца, дзе знайсці занятак у вольны час? Нямала такіх, якія, у пошуку прыгоды, даходзяць да злачынстваў...

На сённяшні дзень замест ЛКСМБ створана новая арганізацыя — Саюз моладзі Беларусі. Аднак яна не мае былой матэрыяльнай базы, не карыстаецца падтрымкай улады і большай часткі моладзі.

У час сустрэчы закраналіся пытанні вывучэння рускай мовы, ролі рэспубліканскіх і міжнародных алімпіяд, выпуску падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, прывілей медалістаў і дзяцей з чарнобыльскай зоны пры паступленні ў навучальныя ўстановы, працаўладкавання маладых спецыялістаў.

На гэтыя і іншыя пытанні давалі грунтоўныя адказы першы намеснік міністра адукацыі і навукі Генадзь Пятроўскі і адказны работнік міністэрства Георгій Бутрым.

Міхась АНІСЕНКА.



## НГ-іНФАРМ

# НА МЯЖЫ ВЫЖЫВАННЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

радскім транспарце — 200.

Заложнікамі рынкавай палітыкі ў жыллёвай сферы сталі перш за ўсё работнікі бюджэтных галін. Вось толькі адзін прыклад. На справаздачна-выбарчай прафсаюзнай канферэнцыі ў Магілёве з болем гаварылася, што пад будаўніцтва індывідуальнага жылля настаўнікам было выдзелена 200 участкаў. Але выкарыстаць гэта права з-за дарагавізны будаўнічых матэрыялаў настаўнікі не змаглі, бо ніхто з педагагічных работнікаў не змог атрымаць ільготны крэдыт на будаўніцтва.

Між тым, іншыя катэгорыі грамадзян такія крэдыты атрымалі. Аналагічнае становішча ў іншых раёнах краіны.

Немагчымасць даказаць відавочнае былым Дзяржкампрацы, Мінфіну, Дзяржэканомплану ды і Саўміну цалкам давяла настаўніцтва ў студзені бягучага года фактычна да нацыянальнай забастоўкі.

Мы — нацыя, якая развіваецца, і галоўная небяспека для такіх нацый — "уцечка мазгоў". Нам яна ўжо сёння пагражае па двух напрамках. "Бягуць" спецыялісты за мяжу і ў недзяржаўныя ўстановы. Перакачваецца інтэлектуальны патэнцыял не толькі ў такіх дэфіцытных пакуль што абласцях, як юрыспрудэнцыя, эканоміка, замежныя мовы, але і ў галіне сучасных інжынерных спецыяльнасцяў. Небяспека ўзмацняецца яшчэ і тым, што губляецца прэстыж многіх прафесій, і асабліва педагагічных.

Аспірантура і дактарантура трымаюцца толькі на энтузіязме маладых даследчыкаў. Такое крытычнае становішча праграмуе наша будучае на ўсё больш сур'ёзнае адставанне ад развітых краін.

Для нашай краіны, у якой не толькі галоўным, але, бадай, адзіным істотным багаццем з'яўляецца інтэлект, палітыка астаткавага фінансавання адукацыйнай і навуковай сфер — надзвычай небяспечная.

Нельга сёння маўчаць і пра іншых працаўнікоў бюджэтнай сферы, тэхнічак, дворнікаў, вартаўнікоў і інш. Хто сёння з залы падкажа, як можна пражыць на 34 тысячы ў месяц?

Цяжка паверыць у тое, што дзяржава свядома асуджае сваіх грамадзян на немагчымасць выжывання.

Да гэтай катэгорыі трэба аднесці і студэнцтва. Не зразумела, мяркуючы з чаго, павялічыўшы з 1 снежня датацыю на хлеб і малако да 20 тысяч, студэнтам пакінулі толькі 8 тысяч. Ужо сёння асобныя палітычныя сілы імкнуцца павярнуць на будучых выбарах у Вярхоўны Савет настрой у студэнцкіх колах на сваю карысць.

Скончыць я хачу словамі спевака, паэта, гуманіста Булата Акуджавы: "Калі б я быў царом, а ў краіне маёй быў хаос, разбурэнне, мярзотнасць, падзенне нораваў, безнадзейнасць — я б апошнія грошы раздаў настаўнікам і ўрачам, каб яны вырасцілі мне новае пакаленне здаровых, разумных і добрых людзей".

ІНТЭРВ'Ю З НАГОДЫ

Аркадзь РУСЕЦКІ:

## "Час патрабуе пераходу інстытута ўдасканалення настаўнікаў на новы сацыяльны статус"

**У гэтыя дні адзначае свой паўвекавы юбілей Віцебскі інстытут удасканалення настаўнікаў. З нагоды свята наш карэспандэнт гутарыць з намеснікам дырэктара інстытута, доктарам гістарычных навук Аркадзем Русецкім.**

**— Аркадзь Уладзіміравіч, якімі былі гэтыя 50 гадоў для калектыву інстытута?**

— Калі адказаць на Ваша пытанне коратка, то можна адзначыць, што для калектыву ІУН, як і наогул для беларускай школы, гэтыя гады былі складанымі і супярэчлівымі. З аднаго боку, вырашэнне шматпланавай і пачэснай задачы папаўнення ведаў і ўменняў настаўнікаў, абагачэнне педагагічнай практыкі дасягненнямі навукі і перадавога вопыту; з другога — праца ў даволі жорсткіх рэгламентуючых рамках пастаноў і патрабаванняў да адукацыі, ідэалагічных канструкцый партыйных камітэтаў, што стрымлівала як творчы пошук, так і ўкараненне вынікаў эксперыменту.

**— І ўсё ж калектыў жыў і працаваў. І працаваў добра. Сведчанне таму, як мне вядома, шматлікія ўзнагароды ВДНГ у Маскве, Міністэрства адукацыі Беларусі, мясцовых органаў кіравання.**

— Так, усё гэта было. На мой погляд, усё штучнае, наноснае як бы заставалася ўбаку ад галоўнай задачы — павышэння метадычнага майстэрства настаўнікаў. Менавіта гэта вызначала накірункі творчых пошукаў супрацоўнікаў інстытута, метадыстаў, органаў адукацыі, навукоўцаў, якія займаліся такімі праблемамі. Поспех справы вырашалі людзі, якія шмат гадоў жыцця аддалі пачэснай справе ўдасканалення майстэрства педагагічных кадраў. Са словамі падзякі сёння можна назваць прозвішчы М.П.Ільінец, В.П.Эгліт, Г.І.Кунцэвіч, Я.Г.Міхайлоўскага, У.І.Кучынскага, Д.Я.Перліна, А.Я.Меліхава і іншых.

**— А што вызначае дзейнасць інстытута ў сучасных умовах? Якія галоўныя накірункі ў яго дзейнасці можна было б назваць?**

— Канечне, гэта "Канцэпцыя адукацыі і выхавання ў Беларусі", якая вызначыла задачы, мэты і накірункі нашай дзейнасці на бліжэйшую перспектыву. Сярод вызначальных было і застаецца аператыўнае задавальненне патрабаванняў органаў адукацыі ў павышэнні кваліфікацыі і перападрыхтоўкі педагагічных кадраў на аснове сацыяльнай абумоўленасці навучання. Як гэтага дасягнуць? Перш за ўсё праз арганізацыю бесперапыннай метадычнай работы з настаўнікамі, развіццё іх самаадукацыі ў спалучэнні з курсавым навучаннем, што, у сваю чаргу, патрабуе ад калектыву інстытута пастаяннага ўдасканалення форм, метадаў і прыёмаў арганізацыі навучальнага працэсу. Пры гэтым увага канцэнтруецца на дыягностыцы і прагназаванні патрэб і інтарэсаў педагогаў,стварэнні варыятыўных модуляў зместу навучання, выкарыстанні дасягненняў даследча-эксперыментальнай работы і г.д. Абнаўленне форм і метадаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў прывяло да з'яўлення ў структуры інстытута спецыяльнага факультэта, вучоба на якім завяршаецца прысваеннем слухачам дзяржаўнай камісіяй новай кваліфікацыі (пакуль што такіх кваліфікацый дзве — "Псіхолаг ва ўстановах адукацыі" і "Выкладчык беларускай мовы і літаратуры").

**— А што ў планах інстытута на бліжэйшы час?**

— Па-першае, вызначэнне канкрэтных накірункаў перападрыхтоўкі кадраў у сувязі з пераходам краіны на дванаццацігадовы тэрмін навучання дзяцей у агульнаадукацыйнай школе. Знаёмства з канцэпцыяй Міністэрства адукацыі і навукі дазваляе зрабіць вывад, што такая перабудова патрабуе ад усіх, хто працуе з настаўнікамі, актыўнага пошуку і выкарыстання нетрадыцыйных падыходаў да іх перападрыхтоўкі. Па-другое (назіраецца прамая залежнасць ад папярэдняй думкі), пераход на новы сацыяльны статус інстытута. Маецца на ўвазе рэарганізацыя інстытута ўдасканалення настаўнікаў (колькі ж можна ўдасканальваць!?) у інстытут павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў, у якім галоўную ролю будуць адыгрываць кафедральныя і кафедральна-кабінетныя (прадметныя) калектывы. Размова ідзе пра тое, каб вывесці работу з настаўнікамі, выхавацелямі дзіцячых садоў на новы навуковы ўзровень. Гэтага, як мне здаецца, патрабуюць і час, і абставіны, і самі кадры.

**— Дзякую за гутарку. Жадаю калектыву поспехаў у здзяйсненні ўсіх намечаных планаў.**

— Вам дзякуй. Будзем спадзявацца на дапамогу і роднай "Настаўніцкай газеты".

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ДЗЕ СЫХОДЗЯЦЦА ЎСХОД З ЗАХАДАМ

**Ёсць такое месца ў Еўропе, дзе перасякаюцца шляхі дзелавых людзей з Захаду і Усходу, з многіх краін і кантынентаў — гэта германскі горад Гановер, горад сусветна вядомых кірмашоў і выстаў. Пра гэта ішла размова ў Беларускай політэхнічнай акадэміі на прэс-канферэнцыі, якую правяла выставачная фірма з Германіі "Дойчэ Месэ АГ".**

У Гановеры сустракаюцца прадстаўнікі ўсіх развітых краін свету, буйнейшых фірмаў і банкіры. Тут можна даведацца не толькі пра тую ці іншую фірму, але і ў цэлым пра краіну, зразумець, дзе з большай выгадай прадаць сваю прадукцыю або набыць замежную, атрымаць каштоўную інфармацыю пра тое, у якім накірунку развіваць сваю ўласную вытворчасць або рабіць навуковыя распрацоўкі.

— Гановер — гэта рынак, які не мае межаў і мытных бар'ераў, — гаворыць генеральны ўпаўнаважаны "Дойчэ Месэ АГ" Міхаэль Боерман. — За адно наведанне можна ахапіць увесь зямны шар. Гэта добра разумеюць дзелавыя людзі, якія навучыліся лічыць грошы. За кошт адной паездкі ў Германію можна зэканоміць мноства паездак па ўсім свеце, за 6—8 дзён работы выставы — наведаць сотні прадпрыемстваў, у найкарацейшы тэрмін заключыць здзелкі, выкарыстаць выставу ў якасці трампліна для выхаду на новыя рынкі і яшчэ раз пераправерыць сваю канкурэнтаздольнасць у міжнародным саперніцтве, расшырыць кантакты, знайсці для сябе новых партнёраў па супрацоўніцтве і кааперацыі не толькі ў Германіі і Еўрапейскім супольніцтве, але і ў іншых краінах свету.

Гановерскі кірмаш з'яўляецца найбольш буйным у свеце. Штогод у ім прымаюць удзел звыш 6500 фірм з 70 краін свету. Шырокі спектр экспанатаў кірмашу прыцягвае сюды каля 400 тысяч наведвальнікаў са ста краін свету.

Удзел у гановерскіх выставах і кірмашах значна аблягчае задачу прарыву на сусветны рынак. Некаторым удаецца ажыццявіць свой намер з першага ўдзелу, іншым пасля трэцяга-чацвёртага. І гэта рэальна для кожнага, канстатуюць тыя, хто спазнаў дадзеную "кухню", бо наш патэнцыял не меншы заходняга, проста мы не ведаем пакуль, куды ісці, як яго выкарыстоўваць. А гэта цэлая навука.

Каб павысіць ККД свайго ўдзелу ў гановерскіх выставах, кожнаму яе ўдзельніку важна прайсці лікбез у Беларускай політэхнічнай акадэміі, якая ўжо мае пэўны вопыт і можа падзяліцца ім.

Наш кар.





А ЯК ЗА МЯЖОЙ?

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ ВІКІНГАЎ

### ТАК ХОЧАЦЦА, КАБ "НАРВЕЖСКАЯ КАЗКА" СТАЛА І Ў НАШАЙ КРАІНЕ ЯВАЙ...

**З 4 па 15 кастрычніка б.г. група навучэнцаў школы-ліцэя №26 Мінска ў складзе дэлегацыі беларускіх школьнікаў, вучняў 15-ці школ і двух маладзёжных цэнтраў — сяброў Беларускай асацыяцыі клубаў на чале з яе прэзідэнтам Аляксандрам Шабаліным знаходзілася ў Нарвегіі. Мэта паездкі — падпісанне праекта "Развіццё" для пастаяннага абмену навучэнцамі.**

4 кастрычніка ў 8 гадзін раніцы самалёт нарвежскай кампаніі, фундатара паездкі, прыбыў у горад Сцьордал, раён паўночна-заходняй часткі Еўропы, так званую Зялёную Арктыку, што ў цэнтры Нарвегіі. Гэта вобласць Паўночнага Трандэлага, зямля вікінгаў.

Панарама горада дзіўная. З трох бакоў акаймоўваюць яго горы, на якіх ярусамі выстраіліся домікі ў два паверхі, пераважна белага і чырвонага колеру, у сярэдзіне — раўніна, усеяная такімі ж дамамі, а з чацвёртага боку — мора, правільней, заліў, дзе стаяць ля прычала марскія судны і рыбацкія лодкі. Нядаўна выпаў снег і прайшоў шторм. Аднак у дзень прыезду ўсё было спакойна. Белыя шапкі накрылі вяршыні гор, лёгкая пароша прыкрыла галінкі елак і соснаў, і тым больш дзіўнымі былі шматколернасць восеньскіх фарбаў ля падножжа гор і яркія кветкі каля пад'ездаў дамоў, якія выдзяляліся на белым і чыстым снезе. Усё не так, як у нас, нязвыкла і цікава.

Нас размясцілі па кватэрах, правільней, па дамах, бо кожная сям'я мае тут уласны дом з 6 — 12 пакояў. Нарвежцы надаюць вялікае значэнне дому, яго планіроўцы, афармленню. Кнігі, карціны, кветкі, музычныя інструменты абавязковыя ў кожным доме, у астатнім яны (дамы) усе розныя. Дом — гэта месца, дзе збіраецца ўся сям'я. Абед (а ён звычайна ў 16 — 18 гадзін, калі заканчваецца рабочы дзень і заняткі ў школе) — толькі дома. Нарвежцы кажуць, што яны добра жывуць, і дом — паказчык іх дабрабыту.

Да 13.00 усе сабраліся ў школе. Гэта вялікі аднапавярховы будынак, які складаецца з некалькіх частак, злучаных крытым унутраным дворыкам. Класныя пакоі вялікія, шасцівугольныя, злучаны паміж сабой. У гэтай школе вучацца 7, 8, 9 ступеняў (класаў), усяго 286 вучняў, працуюць 32 педагогі. Заняткі — пяць разоў у тыдзень, у суботу школа не працуе. Урокі з 8.30 да 14.00. Сталоўкі няма. І настаўнікі, і вучні носяць "сабойкі" (бутэрброды, фрукты). Урокі па 45 мінут. Адзін настаўнік, як правіла, вядзе некалькі навучальных прадметаў. Настаўніцкі пакой — гэта пакой адпачынку, побач — рабочы пакой, дзе можна падрыхтавацца да ўрокаў, размножыць матэрыялы, пакарыстацца камп'ютэрам, метадычнай літаратурай.

У кожнай школе працуюць 1 — 2 інспектары. Яны аказваюць дапамогу адміністрацыі школы, ажыццяўляюць адначасова кантроль за яе дзейнасцю.

Настаўнікі ў школе знаходзяцца да 15 — 16 гадзін, г.зн. сем гадзін, субота і нядзеля ў іх выхадны. У вольны ад урокаў час тут жа, у школе, яны займаюцца падрыхтоўкай да заняткаў, самаадукацыяй, індывідуальнай работай з вучнямі, удзельнічаюць у абмеркаванні педагагічных праблем, рыхтуюць мерапрыемствы, як правіла, у вячэрні час.

Нарвежскія настаўнікі атрымліваюць у месяц 14 — 20 тысяч крон, г.зн. 2 — 3 тысячы долараў, што дазваляе ім жыць у дастатку. На месячную зарплату нашых настаўнікаў, калі пераверсці яе ў долары, у Нарвегіі можна толькі з'есці два бутэрброды з рыбай і выпіць шклянку кавы.

У час знаходжання ў Нарвегіі наша група шмат часу прабыла ў школе: наведвалі ўрокі, удзельнічалі ў дыскусіях, давалі канцэрты. Нарвежцам вельмі спадабаліся беларускія песні і танцы, выстава малюнкаў нашых вучняў, вечар за самаварам, а беларускім дзецям — нарвежскія народныя танцы, віртуознасць у ігры на скрыпцы, фартэпіяна. Асаблівае ўражанне зрабіла вялікая работа нарвежскіх школьнікаў па ахове навакольнага асяроддзя.

Пытанням экалогіі ў Паўночным Трандэлагу надаецца шмат увагі, значна больш, чым у Беларусі. Тут лічаць сябе пацярпелымі ад чарнобыльскай аварыі, бо 26 красавіка 1986 года страшэннае воблака дайшло і сюды. З тае пары тут пастаянна вядзецца назіранне за раслінным і жывёльным светам, бяруцца пробы зямлі і вады, раз у чвэрць адпраўляюцца ў мора і ў горы групы школьнікаў для даследаванняў. Нам бы іх трывогі і ўвагу!

Вучні наведалі музей габеленаў мясцовай мастачкі, завод "Мікрапласт", пабывалі ў спартыўнай школе, дзе правялі сяброўскія сустрэчы па валейболе, баскетболе, скачках на батуце, плаванні на каноэ, гонках на ролікавых лыжах, зрабілі экскурсію ў старую сталіцу Нарвегіі, а цяпер трэці па велічыні горад краіны — Транхейм, дзе цудоўна спалучаюцца стары і новы архітэктурныя стылі, мноства музеяў, гістарычных помнікаў, славуты сабор Нідарус, рэзідэнцыя каралёў Стыфстгоран (Губернатарскі палац, пабудаваны ў XVIII стагоддзі) і, вядома ж, рыбны рынак.

Разам з нарвежскімі школьнікамі мы зрабілі экскурсію ў стары Рорус з яго музеем горнай справы і старымі шахтамі, своеасаблівы і маляўнічы былы шахцёрскі горад, які ўяўляе сабой "жывы музей". Галоўная "Вуліца Рудакопа" лічыцца тут самай прыгожай у Нарвегіі, а карціна Харальда Сульберга, на якой яна адлюстравана, — бясцэнным шэдэўрам.

Самыя ж незабыўныя дні, праведзеныя ў краіне Ібсена і Грыга, Мунка і Хейердала, — гэта дні ў гарах. Школьнікам надоўга запомніцца пад'ём да шведскай граніцы, вадаспад, чорнае возера, катанне на конях і каноэ, аленіна, падсмажаная на агні, квітнеючы горны верас...

Нарвегія — краіна, тры чвэрці якой — скалістыя горы, многія з іх пакрыты вечным ільдом. Трэць тэрыторыі знаходзіцца за Палярным кругам.

Цяперашні дабрабыт краіны — вынік упартай працы ў суровых прыродных умовах.

Нарвежцы вельмі любяць сваю краіну, захоўваюць нацыянальную культуру і традыцыі. У кожнай сям'і ёсць нацыянальны касцюм, а ў магазінах вельмі многа адзення з нацыянальным арнаментам, своеасаблівым пакроем.

Два тыдні праляцелі як адзін дзень. Быў прыём у мэрыі і правады з пажаданнем удалага палёту галоўнага прадстаўніка ўлады Сцьордала. Было "мора" развітальных слёз з абодвух бакоў — нарвежскага і беларускага. А засталіся ў памяці добрыя і ветлівыя людзі, незабыўнае ўражанне знаходжання ў казачным сне.

Як хочацца, каб "нарвежская казка" стала і ў нашай краіне явай! Каб хутчэй пачалося ў нашай краіне нармальнае чалавечае жыццё, якое б зняло з нас праблемы быту і дало магчымасць творчаму росту ва ўсіх галінах дзейнасці.

Зоя ПАЎЛАВА,
дырэктар сярэдняй школы-ліцэя №26 Мінска.

НА ЗДЫМКАХ: беларуская група з дырэктарам ліцэя; дзень Беларусі ў нарвежскай школе; на экскурсіі ў Старым Рорусе; сяброўкі; у такім доме жывуць нарвежскія настаўнікі; гульня ў класе.



## НГ-іНФАРМ

КАНФЕРЭНЦЫІ

## Навуковае супастаўленне

5—7 снежня 1994 года Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут праводзіць III Міжнародную навуковую канферэнцыю "Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства".

## ПА ДАРОГАХ КРУГЛЯНШЧЫНЫ

Нядаўна ў гарпасёлку Круглае ў рамках абласной экспедыцыі навучэнцаў "Наш край Прыдняпроўскі" прайшла раённая краязнаўчая канферэнцыя настаўнікаў — кіраўнікоў школьных краязнаўчых гурткоў, у якой бралі ўдзел каля 70 вучняў і педагогаў з 14 школ раёна. Яны трымалі імправізаваную справаздачу, абменьваліся вопытам работы.

Прагучала шмат новых і цікавых звестак з гістарычнай і культурнай спадчыны Круглянішчыны. І пра славутых землякоў, такіх, як ураджэнец раёна, герой Крымскай вайны, генерал-губернатар Туркестана М.Р. Чарняеў, і паданні пра гістарычных асобаў, якія наведвалі круглянскую зямлю, і пра археалагічныя помнікі і гарадзішчы, абследаваныя і апісаныя настаўнікамі-краязнаўцамі разам з вучнямі, і пра маршруты краязнаўчых падарожжаў, і сабраныя матэрыялы па тапаніміцы, этнаграфіі і фальклоры роднага краю.

Мікалай БАРЫСЕНКА,
загадчык краязнаўчага аддзела абласнога Цэнтра дзіцячага турызму.

СКАЖУ ДОБРАЕ СЛОВА

# ПРА РУЖУ І ДУШУ

Ёй ледзьве споўнілася дваццаць. Стройная, прыгожая, яна выклікала замілаванне кожнага, хто хоць раз убачыў яе. Але толькі адзін любіў яе па-сапраўднаму. Клапатліва даглядаў, песціў і цярпліва чакаў, калі ж яна нарэшце зацвіце. Першы чырвоны бутон распусціўся нечакана, нібы спяшаўся здзівіць усіх сваёй незвычайнай прыгажосцю і перш за ўсё парадаваць свайго гаспадара.

Ружа-красуня стаяла ў холе вучылішча, і не было ў яе бок ніводнага раўнадушнага позірку. А той дзіўны, непаўторны пах яе чароўных кветак лашчыў душу ў шэры, спахмурнелы восеньскі дзень.

...Яе тонкую, кволую постаць зламалі лёгка. Першакурснікі, неўтаймаваныя гарэзы, бавілі час перапынку побач з ружай і ў валтузні не заўважылі, як наваліліся на куст. Сцябло трэснула. Усе як быццам акамянелі. Прыціхлыя, чакалі крыку, ушчуванняў. Расліну ж вырасціў сам намеснік дырэктара.

Генадзь Леанідавіч успрыняў здарэнне моўчкі. Крычаць, падымаць лямант з нагоды і без яе не любіў, ды гэта і не спосаб выхавання. І так усё было зразумела па яго твары, па патухшых вачах: страта была балючая. Вось табе і на... Гадаваў дваццаць гадоў, насіў з сабой, як малое дзіця, усё для прыгажосці, для ўтульнасці роднага вучылішча. Нават шторкі па колеры падабраў ды сам і пашыў. Усё для іх, для сваіх навучэнцаў. А яны такое ўчынілі...

Роспачна думаў: і за што трымаешся на гэтай працы? Аклад — ну проста смешны. Удзячнасць? Як кажуць, спытай пра што іншае. А ў апошні час увогуле ў "паветры" носіцца меркаванне: ці патрэбен сёння, у нашым маладым грамадстве з новымі, капіталістычнымі ідэямі, нейкі намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце, той, што называўся зампалітам? Пасаду можна скараціць, а выхаванне адмяніць...

Што пануе сёння ў школах? Што паесці, што апрануць, дзе, нарэшце, грошы ўзяць — ці не галоўны клопат?

Таму і паглядваюць на яго і сябры, і калегі як на альтруіста, які носіцца з духоўнымі праблемамі?

Мо і сапраўды не патрэбна гэта сёння?

...І ўсё ж боль паціху стухаў, і зноў яго навучэнцы станавіліся самымі роднымі, а работа самай-самай найлепшай.

Эх, лёгка сказаць — кінуць-рынуць усё. Ды ён жа і не ўяўляе сябе ў іншай ролі ў гэтым жыцці. Хоць набытых прафесій і хапае, і рукі залатыя, нават журфак паспяхова асіліў, спортам займаўся з дзяцінства. А вось на выхавацеля нідзе не вучыўся. Але лічыць, што справа выхавання — патрэба яго душы, справа, з якой ён шчаслівы і здрадзіць ёй ужо не можа. Толькі раз Генадзь Копач змяніў месца работы за больш чым дваццацігадовы працоўны стаж.

Тады працаваў ён майстрам вытворчага навучання ў мінскім ПТВ №32 паліграфістаў. 15 гадоў вучыў там падлеткаў не толькі прафесіі, а і жыццю. Выхаванцы настолькі любілі яго і давяралі ва ўсім, што лічылі яго сваім і братам, і бацькам. І калі прапанавалі яму пасаду ў ПТВ №71, ледзьве далі звольніцца. Дні тры прыязджалі яго выхаванцы да новага месца работы іх Генадзя Леанідавіча і ўпарта сядзелі пад вокнамі яго кабінета, каб такім чынам прымусіць яго перадумаць.

І што гэта так прыцягвае да яго падлеткаў? І ўзростам ён намнога старэйшы, і не такі ўжо і ідэальны чалавек, але ж кумір бясспрэчны. Прызнаны, заслужаны. Якую б справу ні арганізаваў, усё ў выніку праходзіць цікава, весела, захапляльна. Правядзе нейкае мерапрыемства, а навучэнцы ўжо чакаюць чарговае: "Генадзь Леанідавіч, калі ўжо на турыяду паедзем?". А ён яе сам прыдумаў. Каму ж не спадабаецца залатая восень у Ратамцы! Шэраг неардынарных спартыўных спаборніцтваў, а напрыканцы духмяныя шашлыкі на свежым паветры. Уражанняў на цэлы год, да наступнай.

Не выпадкова, а спецыяльна арганізоўвае Генадзь Леанідавіч такое спартыўнае свята менавіта на пачатку навучальнага года. Гэта як уводзіны для першакурснікаў у навучэнскае жыццё, дзе можна лепшым чынам разгледзець новенькіх: якія яны, чым напоўнены іх душы? І пачынае шукаць сцяжынку да іх. Інтарэсы навучэнцаў, іх пажаданні канцэнтруе ў далейшых выхаваўчых мерапрыемствах.

Рэгулярна арганізоўвае Генадзь Леанідавіч турыстычныя паходы, маршруты якіх выбіраюць разам з выхаванцамі. Часцей яны пралягаюць па гарадах і вёсках Бацькаўшчыны, на радзіму вядомых людзей. У вандроўках падлеткі знаёмяцца з роднымі краявідамі, з гісторыяй Беларусі.

Традыцыяй для вучылішча стала і спартландыя, у якой задзейнічаны ўсе групы трох курсаў. На працягу месяца навучэнцы спаборнічаюць у розных спартыўных мерапрыемствах, рыхтуюць спартыўныя святы. Ні адзін выхаванец не застаецца ўбаку і ў аглядзе мастацкай самадзейнасці. Колькі талентаў спяваць, танцаваць, дэкламаваць выяўляецца ў перыяд яго падрыхтоўкі. Кожная група рыхтуе не толькі канцэртныя нумары, але і маленькія выставы прыкладнога мастацтва, дзе і вышыўка, і лепка, і малюнкі. Лепшыя выканаўцы ўдзельнічаюць потым у гарадскім конкурсе, у якім ПТВ №71 трывала трымае другое месца.

А колькі радасці дастаўляюць арганізаваныя Копачам конкурсы "Ану, хлопцы!", "Ану, дзяўчаты!".

Спартыўных, забаўляльных, гульневых мерапрыемстваў набягае за год вельмі шмат. Кожнаму адведзены свой час, свая пара года.

У ПТВ прыходзяць розныя падлеткі. Толькі ўзрост адзіны, небяспечны — шаснаццаць гадоў. Ужо не дзіця і яшчэ не дарослы. А душа крохкая, як тое сцябло ў ружы.

Генадзь Леанідавіч ставіцца да навучэнца як да роўнага і як да роднага. Не адмяжоўваецца, а шукае да кожнага свой падыход. Вось гэты, як у шкарлупіне, хмуры, да вучобы ніякай цікавасці. Па-добраму, спагадліва распытаеш, а ён і раскажа: бацькі п'юць, паесці няма чаго, які ўжо тут настрой. Другі разбэшчаны, ніякіх рамак не існуе ў паводзінах, не існуе для яго ніякіх аўтарытэтаў. І да яго шукаеш сцяжынку.

І так з кожным. Спытай у Копача пра любога навучэнца з першага па трэці курсы, раскажа падрабязна пра кожнага. Пра каханую дзяўчынку, пра лепшага сябра, пра сям'ю, пра мары і памкненні расказваюць яму выхаванцы. Ідуць да яго з любой просьбай, прапановай, з добрым і дрэнным. Ідуць, таму што ведаюць — Генадзь Леанідавіч ніколі не адмовіць, цярпліва выслухае, дасць параду, падтрымае цёплым словам.

Такі ён ужо чалавек, з вялікім сэрцам і багатай душою.

Вось і ружу тую прынёс Генадзь Леанідавіч, каб радаваць ёю блізкіх яму падлеткаў. Шкада, праўда, што лёс у яе такі нешчаслівы. Але будзе гадаваць новыя кветкі, якіх так многа прынеслі яго выхаванцы, каб суцешыць Генадзя Леанідавіча.

Ала КЛЮЙКО.

**P.S. Пакуль артыкул рыхтаваўся да друку, Генадзя Леанідавіча Копача зацвердзілі дырэктарам мінскага ПТВ №221. Віншуем яго з новай пасадай і спадзяёмся, што энергія, энтузіязм і вялікая любоў да падлеткаў дапамогуць яму ў працы ў новай якасці.**

КЛУБ МАТЭМАТЫКАЎ

# Навучанне без памылак. Ці магчыма яно? Магчыма. Пры нетрадыцыйным выкладанні

**Пры вывучэнні ў шостых класах раздзелаў "Складанне і адыманне дадатных і адмоўных лікаў", "Множанне і дзяленне дадатных і адмоўных лікаў" настаўнікі матэматыкі сустракаюцца з цяжкасцямі, бо дзеці дрэнна запамінаюць дзеянні з дадатнымі і адмоўнымі лікамі. Асабліва цяжка ім даецца пастаноўка знака ў выніку. Хачу падзяліцца з калегамі трохгадовым вопытам нетрадыцыйнага выкладання гэтага матэрыялу. Мой метад дае магчымасць навучыць дзяцей так, што яны практычна не дапускаюць памылак.**

Да вывучэння тэмы "Складанне і адыманне дадатных і адмоўных лікаў" дзеці ўжо засвоілі: "Каардынаты на прамой", "Супрацьлеглыя лікі", "Модуль ліку", "Параўнанне лікаў", "Змяненне велічыняў". Набылі яны і добрае ўяўленне аб адмоўных ліках.

Вывучэнне новага раздзела я пачынаю з тэмы "Раскрыццё дужак". На аснове размеркавальнай уласцівасці множання натуральных лікаў тлумачу вучням, як можна раскрыць дужкі, перад якімі стаяць знакі "мінус" або "плюс". Адпрацоўваем навыкі раскрыцця дужак з дапамогай рашэння спецыяльных практыкаванняў. У выніку атрымліваем выраз у выглядзе алгебраічнай сумы, якую затым лёгка пераўтвараем. Такім чынам поўнасцю знікае запіс з дапамогай дужак. Напрыклад $(-2)+(-4)=-2-4$. $-(-5)-(-3)=5+3$.

На наступным уроку даю азначэнні, як складваць лікі з аднолькавымі знакамі і тое ж самае — з рознымі знакамі. Школьнікам неабходна іх вывучыць напамяць, што не ўяўляе цяжкасцяў. На наступным уроку праводжу пісьмовую праверку ведаў чатырох азначэнняў: "Раскрыццё дужак, перад якімі стаіць знак "плюс", "Раскрыццё дужак, перад якімі стаіць знак "мінус", "Як скласці два лікі з аднолькавымі знакамі?", "Як скласці два лікі з рознымі знакамі?"

Пасля таго, як пераканаюся ў выдатным веданні названых правілаў, пераходжу да рашэння задач. Астатнія 11 урокаў (з 13 адведзеных на гэтыя тэмы) адпрацоўваем практычныя навыкі складання дадатных і адмоўных лікаў. Тэма "Адыманне" проста знікае, г.зн. замяняецца практычным рашэннем задач. (Спачатку праходзіць раскрыццё дужак, а затым складанне лікаў).

Аналагічным метадам вывучаем раздзелы "Множанне і дзяленне дадатных і адмоўных лікаў", "Рашэнне ўраўненняў". На іх адведзена 35 гадзін. Пры ўказаным выкладанні матэрыялу вучні лёгка спраўляюцца з заданнем за палову адведзенага часу і практычна беспамылкова выконваюць дзеянні з рацыянальнымі лікамі. Кантрольныя работы паказваюць добрыя веды школьнікаў. У наступным яны лёгка працуюць з прывядзеннем падобных у алгебры і наогул набываюць дадатковую ўпэўненасць у вывучэнні матэматыкі.

**Валерый КОШМАН,**
**намеснік дырэктара 1-й жыткавіцкай школы.**

# III РЭСПУБЛІКАНСКІ ТУРНІР ЮНЫХ ФІЗІКАЎ

У лютым 1995 года ў Мінску адбудзецца III Рэспубліканскі турнір юных фізікаў (ТЮФ). Для ўдзелу ў ім аргкамітэт запрашае ўсіх жадаючых даслаць заяўку (з прыкладаннем спісу каманды) да 31 снежня гэтага года на адрас:

**220013, Мінск, вул.Дарашэвіча, 3, "Турнір юных фізікаў".**

**Кансультацыі па тэлефонах:**

**(0172) 39-91-72, НЯХАЙ Генадзь Уладзіміравіч,**
**(0172) 26-57-47, МАРКОВІЧ Леанід Рыгоравіч.**

З правіламі правядзення турніру можна азнаёміцца ў "Настаўніцкай газеце" за 10.04.1993 г. Інфармацыю аб прайшоўшых ТЮФах і прыклады выканання заданняў апублікаваны ў часопісе "Фокус" (№1—2 за 1993 г. і №3 за 1994 г.)

Для ўдзелу ў ТЮФе камандзе з 5—7 школьнікаў пад кіраўніцтвам настаўніка неабходна выканаць 8 заданняў, якія друкуюцца ніжэй.

Каманда-пераможца нацыянальнага спаборніцтва атрымае права ўдзелу ў VIII Міжнародным турніры юных фізікаў, які адбудзецца ў Варшаве летам 1995 г.

**За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся ў аргкамітэт ТЮФа па тэлефонах:**

**(0172) 20-98-39, Гаравая Наталля Піліпаўна**
**(0172) 26-57-47, Слабадзянюк Анатоль Іванавіч,**
**Марковіч Леанід Рыгоравіч**

Аргкамітэт чакае заявак ад пераможцаў гарадскіх, раённых, школьных ТЮФаў, а таксама ад усіх, хто жадае праверыць сябе ў рашэнні нестандартных задач па фізіцы, усіх тых, хто любіць карпатлівую эксперыментальную работу, умее весці навуковую дыскусію і абараняць свае навуковыя ідэі.

# ЗАДАННІ III РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТУРНІРУ ЮНЫХ ФІЗІКАЎ

1. "Придумай сам". Придумайте парадоксальный физический эксперимент для розыгрыша соперника.

2. "Кипящая вода". Говорят, что для экономии времени и энергии при кипячении воды для чая следует сосуд с водой закрыть крышкой. Исследуйте этот феномен и найдите способ экономии времени и энергии.

3. "Капля". Капля солёной воды, высыхая на гладкой поверхности, образует систему колец. Исследуйте и объясните это явление.

4. "Звук". Преобразуйте электрическую энергию конденсатора ёмкостью 100 мкФ, заряженного до напряжения 30в, в звуковую с максимально возможной эффективностью. Внешние источники энергии для преобразования не используются. Определите долю энергии, преобразованную в звук при разрядке конденсатора.

5. "Три диска". Исследуйте соударение трёх однородных твёрдых дисков, происходящее в одной плоскости, когда два из них исходно покоятся, в двух случаях:

а) третий диск соударяется одновременно с двумя другими;

б) третий диск сначала соударяется с одним из двух дисков.

6. "Ковёр". Свёрнутый в рулон ковёр может раскатываться после небольшого толчка. Определите факторы, влияющие на величину скорости раскатывания.

7. "Мороженое". Получите экспериментально переохлаждённую воду. На сколько градусов ниже О С Вам удалось её охладить? Каким будет рекорд в этом эксперименте? Измерьте температуру замерзания воды.

8. "Бутылка". Пластиковую бутылку объёмом 1—2 литра доверху наполнили водой и " нечаянно" уронили на пол с высоты Н=1 м. На какую максимальную высоту взлетит струя брызг и почему? С какой высоты должна упасть бутылка, чтобы разорваться?

**Чакаем вашых заявак.**

**АРГКАМІТЭТ.**

КАМПЕТЭНТНЫ СУРАЗМОЎЦА

# Плюсы і мінусы прыватнай школы

**У Нацыянальным інстытуце адукацыі падрыхтавана і неўзабаве выйдзе ў свет манаграфія "Прыватная школа". Тэма, як і сама з'ява для нашай адукацыі, абсалютна новая. І таму наш карэспандэнт Георгій КЛЯБАНАЎ гутарыць з аўтарам кнігі, загадчыцай інфармацыйна-аналітычнага сектара Цэнтра параўнальнай адукацыі, кандыдатам педагагічных навук Верай КАПРАНАВАЙ.**

**— Вера Анатольеўна, вы вядомы як спецыяліст па параўнальнай педагогіцы, аўтар серыі работ, прысвечаных інавацыйным тыпам навучальных устаноў. І вось новае даследаванне. Чаму вы звярнуліся да гэтай тэмы?**

— Адным з прыярытэтных накірункаў рэформы нацыянальнай сістэмы адукацыі стала ўдасканаленне работы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Побач з тыповай мадэллю масавай школы ў беларускай адукацыйнай сістэме сёння ўзніклі і дзейнічаюць розныя яе варыянты (гімназія, каледж, ліцэй). У апошнія гады ў шэрагу краін СНД атрымала распаўсюджанне недзяржаўная школа. У прыватнасці, у Расіі такія навучальныя ўстановы за некалькі гадоў існавання прайшлі шлях ад прыватных адзінкавых ініцыятываў да грамадскага руху. Мы, мажліва, крыху адстаем, але і ў нас у краіне ўжо дзейнічаюць чатыры прыватныя школы і каля двух дзесяткаў недзяржаўных ВНУ. Новыя павевы ў адукацыі заўсёды выклікаюць пільную ўвагу, становяцца зонай павышанай цікавасці. Што ўяўляе сабой прыватная школа? У чым яе адрозненне ад дзяржаўнай? У якой ступені прымальны для нас замежны вопыт? На гэтыя і многія іншыя пытанні я імкнулася адказаць у сваёй кнізе, "народжанай" як вынік пільнага вывучэння праблемы.

**— Як тлумачыцца спецыялістамі сам феномен з'яўлення прыватных школ? Якія функцыі выконвае прыватны сектар у сістэме адукацыі?**

— Прыватная школа здаўна адкрывалася там, дзе патрэбнасці людзей у адукацыі не цалкам задавальняліся дзяржавай. "Дзіркі" ў дзяржаўнай сістэме адукацыі кампенсаваліся прыватнымі школамі.

Цяпер кампенсуючая функцыя прыватнага сектара адукацыі не страціла свайго значэння, яна толькі відазмянілася. Калі раней акцэнт рабіўся на закрыццё "прагалаў" у самой сістэме адукацыі, то сёння ўвага канцэнтруецца на кампенсацыі недахопаў дзяржаўнай школы. У шэрагу краін прыватныя навучальныя ўстановы, будучы (у сілу меншай залежнасці ад дыктату зверху) больш гнуткімі і свабоднымі, спрабуюць, і даволі паспяхова, пераадолець кансерватызм і бюракратызм дзяржаўнай школы, прымяняюць новыя метады навучання, перадавыя педагагічныя тэхналогіі, ажыццяўляюць індывідуальны падыход да вучняў. Прыватныя школы за мяжой прапануюць шырокі спектр адукацыйных паслуг. Відавочна, што плюралістычная і альтэрнатыўная функцыі прыватнай школы ў далейшым будуць набываць усё большае значэнне. Гэта звязана з тым, што растучы плюралізм каштоўнасцяў і разнастайнасць поглядаў, стылю жыцця суправаджаюцца ўсё больш разнастайнымі адукацыйнымі запатрабаваннямі членаў грамадства.

У многіх краінах прыватны сектар адукацыі выконвае таксама і інавацыйную функцыю. Лічыцца, што сам факт існавання недзяржаўных навучальных устаноў стымулюе прагрэсіўныя пачыны ў адукацыі, садзейнічае развіццю педагагічнай тэорыі і практыкі. Нярэдка прыватныя школы адыгрываюць ролю эксперыментальнай пляцоўкі, іх наватарская дзейнасць прымушае і дзяржаўную школу рухацца наперад. Праўда, многія замежныя спецыялісты лічаць, што інавацыйная функцыя не з'яўляецца вызначальнай для прыватнай школы. Як правіла, усе інавацыі зводзяцца тут да адзінкавых ініцыятыў, якія не знаходзяць шырокага прымянення ў масавай школьнай практыцы, паколькі перанос педагагічных тэхналогій, што мелі поспех у прыватнай школе, у дзяржаўны сектар немагчымы ў сілу адсутнасці ў апошнім неабходных умоў для іх рэалізацыі.

**— Вядома, што ў апошняе дзесяцігоддзе колькасць прыватных навучальных устаноў на Захадзе няўхільна расце. Чым можна растлумачыць гэтую з'яву?**

— Эксперты ў сферы адукацыі звязваюць колькасны рост прыватных школ за мяжой з паляпшэннем матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва, больш глыбокім усведамленнем ролі і значэння якаснай адукацыі, якая асацыіруецца ў вачах грамадства з прыватнай школай. Немалаважнай прычынай звароту да паслуг недзяржаўнай сферы адукацыі з'яўляецца паўсюднае зніжэнне ў 80 — 90-я гады ўзроўню агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі ў дзяржаўнай школе. Некаторыя замежныя спецыялісты лічаць, што стабільнасць і далейшае развіццё недзяржаўнага сектара адукацыі на Захадзе абумоўлена, галоўным чынам, адрозненнямі паміж элітарнай і масавай адукацыяй, неабходнасцю абароны карпаратыўных інтарэсаў, правоў і прывілей у галіне культуры, захаваннем высокага ўзроўню адукацыі эліты, статуса і традыцый прэстыжных навучальных устаноў, дзе з пакалення ў пакаленне рыхтавалі "цвет нацыі".

**— Мяркуючы па тым, што мы ведаем аб прыватнай школе, гэта навучальная ўстанова арыентавана на работу з вучнямі з забяспечаных слаёў насельніцтва.**

— Прыватная школа за мяжой шматаблічная і разнастайная. У кожнай асобна ўзятай краіне яе лёс склаўся па-свойму, што ў значнай ступені было абумоўлена ўзроўнем развіцця эканомікі, культуры, нацыянальнымі традыцыямі, ступенню цэнтралізацыі школьнай сістэмы, адукацыйнай палітыкай у канкрэтнай дзяржаве. У адных краінах прыватнаму сектару адукацыі належаць ключавыя пазіцыі, у другіх яго роля нязначная, у трэціх ён паспяхова канкурыруе з дзяржаўным, паступова заваёўваючы ўсё большы кантынгент вучняў і адцясняючы дзяржаўную школу. У нас дагэтуль існуе няправільнае ўяўленне аб тым, што прыватная школа за мяжой — абавязкова прывілеяваная навучальная ўстанова для выбраных. Гэта не адпавядае сапраўднаму становішчу спраў. Цяпер у замежнай практыцы адукацыі ў наяўнасці некалькі мадэляў прыватнай школы, кожная з якіх выконвае пэўныя задачы. Гэта элітарная, эксперыментальная, аўтарская, канфесіяльная, кан'юнктурная і нацыянальная мадэлі. Я ў сваёй кнізе прыводжу характарыстыкі вышэйпрыведзеных тыпаў прыватнай школы, паказваю асаблівасці іх работы ў розных краінах свету.

**— Якая палітыка дзяржавы ў адносінах да прыватнай школы за мяжой? Ці кантралюе дзяржава дзейнасць прыватных навучальных устаноў, ці аказвае фінансавую дапамогу?**

— Вы закранулі вельмі цікавую праблему. Сутнасць яе ў наступным. Калі дзяржава дае грошы прыватнай школе, яна аўтаматычна атрымлівае права на кантроль за яе дзейнасцю. І наадварот, адсутнасць фінансавання з боку дзяржаўных органаў дае школе пэўную аўтаномію. У розных краінах суадносіны субсідый і дзяржаўнага кантролю істотна вар'іруюцца, абумоўліваючы на практыцы розную ступень аўтаномнасці. Так, у Нідэрландах і Бельгіі недзяржаўныя школы поўнасцю субсідзіруюцца з бюджэту, што цягне за сабой дзяржаўны кантроль за зместам адукацыі і парадкам здачы экзаменаў. Такім чынам незалежнасць іх даволі эфемерная. Такія школы маюць мала магчымасцяў для эксперыменту і творчага пошуку, затое яны не з'яўляюцца элітарнымі і дарагімі. У Італіі, Грэцыі мае месца спалучэнне строгага дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю прыватных школ з высокай платай за навучанне. У гэтых краінах недзяржаўныя школы, як правіла, не атрымліваюць датацый ад дзяржавы. Невялікія сродкі на іх утрыманне выдзяляюцца на мясцовым узроўні. У Вялікабрытаніі адсутнічаюць як прамое дзяржаўнае фінансаванне, так і кантроль за работай прыватных школ, выключаючы патрабаванні да экзаменаў, што робіць брытанскія "паблік скулз" дарагімі і недаступнымі для большасці насельніцтва. У Даніі незалежныя школы на 75 працэнтаў фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту пры мінімальным кантролі за іх дзейнасцю. Як бачым, на практыцы праблема суадносін дзяржаўнага кантролю і фінансавання прыватных школ вырашаецца па-рознаму. Ураўніванне прыватнай школы ў правах з дзяржаўнай пры ўмове роўнага фінансавання неадкладна цягне за сабой строгі дзяржаўны кантроль за яе дзейнасцю, яна адразу ж перастае быць аўтаномнай і незалежнай, але затое — становіцца даступнай для насельніцтва. І наадварот, адсутнасць дзяржаўнага фінансавання робіць прыватную школу дарагой, элітарнай, менш даступнай.

**— Агульнавядома, што прыватныя школы існавалі і ў Расійскай імперыі. Чым адрознівалася дарэвалюцыйная прыватная школа ад дзяржаўнай? Ці можна выдзеліць яе характэрныя рысы?**

— На жаль, дзейнасць айчынных прыватных школ дакастрычніцкага перыяду нашай гісторыі дагэтуль застаецца маладаследаванай у сілу шэрагу прычын. Малая колькасць прыватных навучальных устаноў, строгі нагляд за іх дзейнасцю з боку чыноўнікаў навучальных акруг і міністэрства асветы, большая іх закрытасць у параўнанні з казённымі школамі, безумоўная выбранасць кантынгенту настаўнікаў і вучняў, а таксама складанае становішча, у якім знаходзілася большасць няўрадавых устаноў, вымушаных лавіраваць паміж неабходнасцю захавання міністэрскіх праграм і пошукам свайго "аблічча" — усё гэта ў свой час стала стрымліваючымі фактарамі дзейнасці прыватнага сектара адукацыі ў Расіі.

Дакастрычніцкая прыватная школа выгадна адрознівалася ад казённай разнастайнасцю навучальных праграм і больш высокім узроўнем навучальна-выхаваўчага працэсу і, як вынік, яна карысталася павышаным попытам у грамадстве, будучы папулярнай у асяроддзі дваранства, буйной і сярэдняй буржуазіі, заможнай часткі купецтва і добразабяспечанай гарадской інтэлігенцыі. Характэрнай асаблівасцю няўрадавай школы ў Расіі была яе арыентацыя на пэўны сацыяльны кантынгент вучняў. У значнай ступені дакастрычніцкая прыватная школа была саслоўнай навучальнай установай. Многія недзяржаўныя школы мелі эксперыментальны накірунак. Цэнтральнае месца ў іх творчых пошуках займалі пытанні зместу адукацыі, методыкі выкладання, арганізацыі пазакласнай дзейнасці і вучнёўскага самакіравання.

Не трэба ідэалізаваць дарэвалюцыйную прыватную школу. Побач з несумненнымі вартасцямі ёй не ўдалося пазбегнуць недахопаў. Так, перагрузка школьных праграм была сапраўдным бічом недзяржаўных навучальных устаноў. Многія сучаснікі крытыкавалі прыватныя навучальныя ўстановы за неймаверную плату за навучанне, даступную толькі нямногім.

Вывучэнне архіўных матэрыялаў, успамінаў сучаснікаў, прац па гісторыі педагогікі дазваляе выдзеліць характэрныя рысы, якія ў комплексе абумоўлівалі высокую якасць адукацыі ў шэрагу прыватных школ. Гэта наяўнасць уласнага стылю педагагічнай дзейнасці, непаўторнага "аблічча" кожнай навучальнай установы, моцны ў прафесійных адносінах педагагічны калектыў, выкарыстанне ў працэсе навучання апошніх дасягненняў айчыннай і замежнай практыкі адукацыі, а таксама ўласных аўтарскіх распрацовак, імкненне да захавання дзяржстандарта адукацыі, дыктуемага міністэрскімі праграмамі ў спалучэнні з прапановай дадатковых адукацыйных паслуг, якія карыстаюцца павышаным попытам у грамадстве, пастаянная фінансавая падтрымка прыватнай школы і інш.

**— Ужо некалькі гадоў у сістэмах адукацыі краін СНД дзейнічаюць недзяржаўныя школы. Відаць, сёння ўжо можна даць ацэнку іх дзейнасці?**

— Калі быць дакладнымі, то першыя недзяржаўныя школы з'явіліся яшчэ ў СССР на хвалі перабудовы ў 1990 годзе. Іх стварэнню ніхто не перашкаджаў. Па-першае, іх ніхто не прымаў усур'ёз, па-другое, яны, як правіла, нідзе не рэгістраваліся і пра іх проста не ведалі. Вялікую ролю ў прыцягненні ўвагі грамадскасці да феномена недзяржаўнай школы адыгралі цэнтральныя выданні — "Учительская газета", "Известия", "Комсомольская правда" і інш., на старонках якіх сістэматычна публікаваліся матэрыялы, што асвятлялі розныя аспекты дзейнасці першых прыватных школ. Гэтыя публікацыі садзейнічалі фарміраванню спрыяльнай грамадскай думкі, развіццю лаяльных або, прынамсі, цярпімых адносін да іх з боку мясцовых органаў адукацыі.

Сёння недзяржаўная школа ў краінах СНД выконвае, на наш погляд, шэраг функцый: селекцыйную, альтэрнатыўна-кампенсуючую, інавацыйна-эксперыментальную...

Важнай гарантыяй навучання дзіцяці ў прыватнай навучальнай установе з'яўляецца плацёжаздольнасць яго бацькоў. Як паказвае аналіз сацыяльнага саставу вучняў расійскіх і беларускіх прыватных школ, у іх вучацца дзеці, бацькі якіх з'яўляюцца работнікамі малых і сумесных прадпрыемстваў і фірм. Сёння ў адносінах да айчынных недзяржаўных школ, бадай, справядлівым будзе сцвярджэнне, што не мы выбіраем школу, а школа выбірае нас.

З першых дзён свайго існавання прыватны сектар адукацыі заявіў аб сабе як аб альтэрнатыўным дзяржаўнаму. Узнікнуўшы быццам бы ў процівагу кансерватыўнай дзяржаўнай школе, ён імкнуўся кампенсаваць яе недахопы, проціпаставіўшы казённай атмасферы масавай школы хатнюю, паточнай сістэме навучання — індывідуальны падыход.

Створаны як альтэрнатыўна-кампенсуючы, недзяржаўны сектар адукацыі быў вымушаны выкарыстаць інавацыйныя тэхналогіі. Чула ўлоўліваючы кан'юнктуру, а часам і проста ідучы на паваду сённяшніх запатрабаванняў пэўных слаёў насельніцтва, прыватныя школы прапанoўвалі шырокі дыяпазон курсаў, факультатываў. Наладжваючы такі вялікі спектр адукацыйных паслуг, недзяржаўныя ўстановы далёка не заўсёды маглі гарантаваць іх якасць. Часам ствралася цікавая сітуацыя, калі радавая агульнаадукацыйная школа з накатанай дзесяцігоддзямі методыкай навучання забяспечвала больш высокі ўзровень падрыхтоўкі, чым прыватная навучальная ўстанова, якая ў пагоні за інавацыйнымі тэхналогіямі забывала аб захаванні дзяржаўнага стандарта адукацыі.

У недзяржаўных навучальных установах ёсць шмат станоўчага — маленькія класы (ад 5 да 15 чалавек), нестандартныя праграмы навучання, задавальненне разнастайных адукацыйных запатрабаванняў, свабода і раскаванасць ва ўзаемінах паміж настаўнікамі і вучнямі, індывідуалізацыя навучання і г.д. Але няма і адмоўнага. Гэта перш за ўсё непрыстасаваныя або малапрыстасаваныя памяшканні, арандуемыя для заняткаў. У лепшым выпадку гэта будынкі дзіцячых садоў, клубаў, паверхі дамоў піянераў. Адсюль класы-каморкі, слабае асвятленне, адсутнасць жыццёвай прасторы. Для многіх прыватных школ бібліятэка, спартыўная зала, лабараторная база — нязбыўная мара. Шмат праблем узнікае з фінансаваннем. Ва ўмовах галапіруючай інфляцыі, усеагульнай нестабільнасці відавочна, што без дзяржаўнай падтрымкі прыватнай школе не выжыць. Апошнім часам у дзейнасці недзяржаўных навучальных устаноў наметіліся трывожныя тэндэнцыі: раскол педагагічных калектываў, частыя змены настаўнікаў, нестабільныя расклады, "вельмі сярэднія" навучальныя дасягненні вучняў і як вынік гэтага — зваротны адток школьнікаў з прыватнай у дзяржаўную школу. Такая рэальнасць, якую ўсё цяжэй хаваць за прыгожай шыльдай.

**— Як вы ацэньваеце перспектывы развіцця прыватнай школы ў нашай краіне?**

— Я думаю, што жыццё ўжо само адказала на гэта пытанне. У Беларусі інтэнсіўна расце сетка недзяржаўных ВНУ. Што датычыцца сярэдняй школы, то пакуль яна неканкурэнтаздольная. Патрэбны дзесяцігоддзі для таго, каб яна выпрацавала ўласную асветніцкую філасофію, заваявала аўтарытэт у грамадстве, упісалася ў нацыянальную сістэму адукацыі. Як сведчыць вопыт, стабільнае эканамічнае становішча, развіццё дэмакратычных працэсаў у грамадстве, паляпшэнне матэрыяльнага дабрабыту грамадзян павышае грамадскі попыт на прыватныя школы. Пакуль жа ва ўмовах масавага збяднення пераважнай большасці насельніцтва прыватныя школы ў краіне нешматлікія, карыстаюцца попытам у абмежаванай катэгорыі плацежаздольных грамадзян і маюць элітарна-эксперыментальную накіраванасць.

У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ І ВУЧНЮ

# Сусветная гісторыя

## 7 КЛАС

**ЗВЯРЖЭННЕ МАНАРХІІ І ЎСТАЛЯВАННЕ РЭСПУБЛІКІ.** Камандуючы аўстра-прускімі войскамі пагражаў разбурыць Парыж у выпадку парушэння недатыкальнасці караля. Людовік XVI прасіў дапамогі ў прускага караля для аднаўлення абсалютызму. Марыя-Антуанета выдала Аўстрыі планы французскага камандавання. Усё гэта выклікала выбух абурэння ў Парыжы.

Уначы з 9 на 10 жніўня прадстаўнікі секцый (раёнаў) Парыжа ўтварылі паўстанцкую Камуну — новы орган гарадскога кіравання. Камуна Парыжа ўзяла ўладу ў горадзе ў свае рукі. Пад яе кіраўніцтвам 10 жніўня распачалося ўзброенае паўстанне. У ім прынялі ўдзел 20 тысяч чалавек — большай часткай рамеснікі, рабочыя, дробныя гандляры. Паўстаўшыя штурмам авалодалі каралеўскім палацам Цюільры, які абаранялі швейцарскія наёмнікі і французскія дваране. Амаль усе ўдзельнікі абароны былі забіты. Паўстанцы авалодалі палацам, страціўшы каля 400 чалавек.

Паўстанне 10 жніўня прывяло да фактычнага звяржэння манархіі. Кароль быў арыштаваны. Страціла ўладу буйная буржуазія, якая падтрымлівала канстытуцыйна-манархічны лад. Яна перайшла ў лагер ворагаў рэвалюцыі. Лафает, адзін з лідэраў канстытуцыйна-манархічнай буржуазіі, збег за мяжу.

Вядучую ролю ў Заканадаўчым сходзе і новым урадзе пачалі адыгрываць прадстаўнікі буйной буржуазіі, якія выступалі за ўстанаўленне рэспублікі. Гэтая палітычная групоўка атрымала назву жырандыстаў — па назве аднаго з дэпартаментаў (абласцей) Францыі — Жыронды.

Калі жырандысты прыйшлі да ўлады, яны імкнуліся затармазіць далейшае развіццё рэвалюцыі, супакоіць народ умеранымі рэформамі. Яны адмянілі некаторыя феадальныя павіннасці, пашырылі права голасу.

Палітыка жырандыстаў выклікала вострую крытыку з боку партыі якабінцаў. Сваю назву гэтая партыя атрымала па назве манастыра Святога Якава, у якім яе члены збіраліся для абмеркавання падзей, што адбываліся ў пачатку рэвалюцыі.

Якабінцы адлюстроўвалі імкненне розных грамадскіх слаёў — сялян, рамеснікаў, рэвалюцыйнай буржуазіі. Яны патрабавалі ўстанаўлення рэспублікі і адмены ўсіх феадальных павіннасцей.

У жніўні 1792 г. у Францыю ўварвалася аўстра-пруская армія. 20 верасня французскія войскі атрымалі перамогу над праціўнікам ля вёскі Вальмі і прымусілі яго адступіць. Затым яны самі ўступілі на тэрыторыю Паўднёвай Германіі, Бельгіі, Італіі.

У гэты час адкрыліся паседжанні выбранага насельніцтвам Нацыянальнага канвента (сходу). Канвент прыйшоў на змену Заканадаўчаму сходу.

21 верасня 1792 г. Нацыянальны канвент абвясціў Францыю рэспублікай. Гэта была першая ў гісторыі Францыі рэспубліка. Пануючай палітычнай сілай у пачатковы перыяд рэспублікі заставаліся жырандысты.

У той жа час працягвалася і абвастралася барацьба паміж жырандыстамі і якабінцамі.

1. Назавіце асноўныя палажэнні "Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна". 2. Як Устаноўчы сход аднёсся да каталіцкай царквы? 3. Назавіце асноўныя палажэнні канстытуцыі 1791 г. 4. У чым заключаліся прычыны рэвалюцыйных войнаў? 5. Як адбылося звяржэнне манархіі і ўстанаўленне рэспублікі ў Францыі?

### §16. ЯКАБІНСКАЯ ДЫКТАТУРА

**ПРЫХОД ДА ЎЛАДЫ ЯКАБІНЦАЎ.** Супярэчнасці паміж жырандыстамі і якабінцамі ўзмацніліся. Жырандысты імкнуліся выратаваць ад пакарання караля. Яны дабіваліся абмежавання ўлады Камуны Парыжа і суда над адным з найбольш рашучых рэвалюцыянераў-якабінцаў — Жанам Полем Маратам.

Аднак палітыка жырандыстаў не знайшла падтрымкі ў большасці Канвента і насельніцтва Парыжа.

Камуна Парыжа ўстаяла. Марат быў апраўданы.

21 студзеня 1793 г. быў пакараны смерцю французскі кароль Людовік XVI.

Жырандысцкі ўрад апынуўся ў цяжкім становішчы. У гарадах і вёсках пашыраўся рух за ўраўнаванне маёмасцей. З ураўняльнымі патрабаваннямі катэгарычна не згаджаліся ўсе багатыя слаі насельніцтва.

У сакавіку 1793 г. французскія войскі пацярпелі паражэнне ў Бельгіі і пачалі адступаць. У вайну супраць Францыі ўступілі Англія, Галандыя, Іспанія і іншыя дзяржавы.

На захадзе Францыі — у Вандэі і Брэтані — успыхнулі паўстанні супраць рэвалюцыі. Імі кіравалі прадстаўнікі каталіцкага духавенства і дваранства. Яны абапіраліся на падтрымку Англіі. Асноўную масу паўстаўшых складалі сяляне. Яны былі незадаволены палітыкай парыжскіх улад. Сяляне дабіваліся атрымання зямлі, адмены ўсіх феадальных павіннасцей. Яны, будучы глыбока веруючымі, хавалі ад праследаванняў служыцеляў царквы.

Паўстанне супраць рэвалюцыі распачалося ў адным з буйнейшых гарадоў Францыі — у Ліёне. Краіна апынулася ў крытычным становішчы.

Улады прымалі суровыя меры. Узброеных удзельнікаў паўстання расстрэльвалі на месцы. Быў прыняты закон аб пакаранні смерцю за агітацыю на карысць роўнага размеркавання зямель. Уводзіліся цвёрдыя цэны на харчаванне.

Тым не менш прадуктаў не хапала. Жырандысцкі ўрад быў не ў стане абараніць краіну ад бедстваў. У гэтых умовах парыжане яшчэ раз узняліся на паўстанне.

31 мая — 2 чэрвеня ў Парыжы адбыліся ўзброеныя выступленні народа, Нацыянальнай гвардыі супраць жырандыстаў. Да ўлады прыйшлі якабінцы.

**АРГАНІЗАЦЫЯ ЎЛАДЫ ЯКАБІНЦАЎ І ЯЕ МЕРАПРЫЕМСТВЫ.** У час прыходу да ўлады якабінцаў становішча Францыі было вельмі складаным. Вялікая частка яе тэрыторыі кантралявалася праціўнікамі якабінскай улады. У лагер ворагаў якабінскага ўрада перайшлі жырандысты. У ліпені быў забіты Марат.

У гэтых умовах якабінцы імкнуліся забяспечыць сабе падтрымку насельніцтва. У чэрвені — ліпені 1793 г. Канвент прыняў шэраг законаў на карысць сялян. Бязвыплатна адмяняліся ўсе феадальныя павіннасці. Сяляне сталі поўнымі ўласнікамі сваіх зямельных уладанняў.

У чэрвені 1793 г. Канвент прыняў новую канстытуцыю Францыі. Яна ўсталёўвала рэспубліканскі лад, аб'яўляла вяршэнства народа і роўнасць у правах усіх грамадзян. Гэтая канстытуцыя, аднак, не была ўведзена ў дзеянне ў сувязі са складаным унутраным і міжнародным становішчам Францыі.

Увосень 1793 г. былі ўведзены цвёрдыя цэны на ўсе тавары першай неабходнасці.

Найважнейшай задачай якабінцаў была барацьба супраць ворагаў рэспублікі. Для гэтага была патрэбна моцная ўлада.

Якабінцы ўстанавілі рэвалюцыйны парадак кіравання, рэвалюцыйную дыктатуру. Вышэйшым органам заканадаўчай улады якабінскай дыктатуры з'яўляўся Канвент. Ён ажыццяўляў таксама выканаўчую ўладу праз свае камітэты. Найважнейшым з іх быў Камітэт грамадскага выратавання, які вырашаў усе пытанні знешняй і ўнутранай палітыкі. Для барацьбы з праціўнікамі рэвалюцыі быў створаны Камітэт агульнай бяспекі. Суд над імі ажыццяўляў Рэвалюцыйны трыбунал. У дэпартаменты і ў армію накіроўваліся камісары — члены Канвента, якім даваліся надзвычай шырокія паўнамоцтвы. На месцах дзейнічалі рэвалюцыйныя камітэты, якія выбіраліся насельніцтвам.

Быў аб'яўлены масавы набор у армію. На чале войскаў былі пастаўлены таленавітыя генералы. Іх назначалі незалежна ад узросту і паходжання. Былы конюх Лазар Гош стаў камандуючым арміяй у 25 год. Разгарнулася вытворчасць зброі, пораху, амуніцыі. Прынятыя меры забяспечылі да зімы 1793 г. французскай рэвалюцыйнай арміі перавагу над арміямі праціўнікаў.

**ДЭХРЫСЦІЯНІЗАЦЫЯ.** Большая частка каталіцкага духавенства варожа ставілася да рэвалюцыі і якабінцаў. Якабінская дыктатура, са свайго боку, павяла рашучую барацьбу не толькі супраць свяшчэннікаў, але і супраць самой каталіцкай рэлігіі. Восенню 1793 г. распачалася "дэхрысціянізацыя" Францыі. Цэрквы зачыняліся, іх маёмасць перадавалася дзяржаве. Свяшчэннікаў прымушалі адмаўляцца ад сану. Замест каталіцкай рэлігіі рабіліся спробы ўвесці незразумелы народу "культ Розуму", г.зн. веру ў розум.

Большасць народа не падтрымала гэту палітыку. Таму ў канцы 1793 г. Канвент забараніў гвалт над царквой і абвясціў свабоду веры. Аднак гэтае рашэнне на месцах не заўсёды выконвалася.

**ЯКАБІНСКІ ТЭРОР.** Унутры краіны дзейнічала сістэма рэвалюцыйнага тэрору (ад лац. terror — страх, жах). Гэта было крайняй праявай гвалту. Ворагі рэвалюцыі прысуджаліся да пакарання смерцю. Больш таго, па простаму падазрэнню ў варожых намерах, часта нічым не пацверджанаму, чалавека маглі арыштаваць і пакараць смерцю. Бяссэнсавым і жорсткім было распараджэнне Канвента аб разбурэнні Ліёна. Тое, што застанецца ад Ліёна, загадвалася перайменаваць у "Вызвалены горад". Гэтае распараджэнне было часткова выканана камісарамі Канвента.

Ахвярамі тэрору сталі каля 40 тысяч чалавек. Калі ворагі рэвалюцыі былі пераможаны, тэрор нічым нельга было апраўдаць. Ён настройваў насельніцтва Францыі супраць якабінскай улады, сеяў у краіне трывогу і страх перад рэвалюцыяй.

**МАКСІМІЛЯН РАБЕСП'ЕР (1758—1794).** Рабесп'ер быў найбольш уплывовым палітычным дзеячам на якабінскім этапе рэвалюцыі. Ён нарадзіўся на поўначы Францыі, вырас сіратой, пад апякунствам дзеда. Атрымаў юрыдычную адукацыю ў Парыжы і стаў адвакатам.

Рабесп'ер быў вучнем і прыхільнікам Русо. У час рэвалюцыі ён спрабаваў ажыццявіць ідэі Русо. Перш за ўсё — ліквідаваць галечу, з аднаго боку, і празмернае багацце — з другога.

Рабесп'ер быў членам Канвента, кіраваў Камітэтам грамадскага выратавання. Ён унёс велізарны ўклад у перамогу над знешнімі і ўнутранымі ворагамі французскай рэспублікі. У той жа час ён праводзіў палітыку тэрору.

**КРЫЗІС І ПАДЗЕННЕ ЯКАБІНСКАЙ ДЫКТАТУРЫ.** Якабінская дыктатура змагла арганізаваць адпор арміям, што наступалі на Францыю. К пачатку 1794 г. тэрыторыя Францыі была ачышчана ад непрыяцеля. Вясной 1794 г. французскія войскі нанеслі паражэнне аўстрыйскай арміі на тэрыторыі Бельгіі.

Аднак унутры якабінскай партыі абвастрылася барацьба паміж рознымі групоўкамі. Гэта аслабіла партыю ў цэлым. Якабінцы трацілі апору сярод бедных слаёў насельніцтва. Яны не выканалі абяцанняў у надзяленні зямлёй беззямельных сялян. Не былі ўтаймаваны цэны. Працвітала спекуляцыя. Многія законы не выконваліся. Расло незадавальненне палітыкай Рабесп'ера ў Канвенце. Буржуазныя колы былі незадаволены абмежаваннямі цэн, патрабавалі спыніць тэрор.

Гэта прывяло да перавароту 27 ліпеня 1794 г. (9 тэрмідора II года рэспублікі па рэвалюцыйнаму календару, прынятаму ў 1793 г.). Рабесп'ер і яго паплечнікі былі пакараны смерцю. У краіне ўстанавіўся тэрмідарыянскі рэжым, што пакончыў з якабінскай дыктатурай. Характэрнай рысай гэтага рэжыму з'яўлялася панаванне маладой буйной буржуазіі. Яна ўзбагацілася ў гады рэвалюцыі на спекуляцыях і ваенных пастаўках і цяпер стала правіць Францыяй.

**АД ТЭРМІДОРА ДА ВАЕННАЙ ДЫКТАТУРЫ НАПАЛЕОНА БАНАПАРТА.** Тэрмідарыянскі Канвент адмяніў многія якабінскія законы, у тым ліку закон аб абмежаванні цэн. Ён не клапаціўся аб становішчы бедных слаёў насельніцтва, якія апынуліся перад пагрозай голаду. Парыжскія рабочыя і рамеснікі, даведзеныя да адчаю, вясной 1795 г. двойчы ўзнімаліся на паўстанне. Перш за ўсё яны патрабавалі хлеба. Аднак гэтыя паўстанні былі задушаны, а рабочыя — разззброены.

У кастрычніку 1795 г. была прынята новая канстытуцыя. Яна перадавала выканаўчую ўладу Дырэкторыі з пяці членаў. Заканадаўчая ўлада ад Канвента перайшла да Заканадаўчага корпуса. У краіне працягвалася панаванне "тэрмідарыянскай буржуазіі".

Палітыка Дырэкторыі выклікала расчараванне беднаты. Землямер і юрыст Гракх Бабёф стварыў тайную арганізацыю для падрыхтоўкі паўстання з мэтай звяржэння Дырэкторыі. Ён меркаваў установіць уладу беднякоў і сапраўдную роўнасць. Аднак змова Бабёфа ў 1796 г. была раскрыта, а сам ён пакараны смерцю.

Дырэкторыя ставілася пад небяспеку і з боку прыхільнікаў дынастыі Бурбонаў. Яны рабілі спробы ўзброеным шляхам аднавіць манархію.

Дырэкторыя аказалася няздольнай на правядзенне цвёрдай палітыкі і рабіла ўступкі то адным, то другім палітычным сілам. Гэта не задавальняла буйную буржуазію, якая баялася за сваю ўласнасць. Буржуазія патрабавала больш моцную і надзейную ўладу.

З яе згоды і пры яе падтрымцы 9 лістапада 1799 г. (18 брумера VIII года рэспублікі) генерал Напалеон Банапарт зрабіў дзяржаўны пераварот і ўстанавіў ваенную дыктатуру. У 1804 г. ён быў абвешчаны імператарам.

**АСНОЎНЫЯ РЫСЫ І ЗНАЧЭННЕ ФРАНЦУЗСКАЙ БУРЖУАЗНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.** Французскую рэвалюцыю ўзначальвала буржуазія, якая дзейнічала ў саюзе з народнымі масамі. Гэта надавала ёй буржуазна-дэмакратычны характар.

Рэвалюцыя ажыццявіла глыбокія эканамічныя і палітычныя пераўтварэнні. Яна дала магутны штуршок для пераходу Францыі да капіталізму.

(Працяг на 4-й стар.)

# Сусветная гісторыя

## 7 КЛАС

(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.)

Былі ліквідаваны феадальныя павіннасці сялян. Адмена ўнутраных таможных пошлін, цэхавых манаполій пашырыла магчымасці для развіцця капіталістычнай прамысловасці і гандлю.

Рэвалюцыя ліквідавала саслоўныя прывілеі і ўстанавіла роўнасць перад законам. Яна завяршылася поўнай перамогай буржуазіі. З феадальна-абсалютысцкай дзяржавы Францыя ператварылася ў буржуазную рэспубліку.

У той жа час рэвалюцыя не задаволіла інтарэсаў гарадской і сельскай беднаты. Яна суправаджалася бедствамі і пакутамі людзей.

1. У выніку якіх падзей якабінцы прыйшлі да ўлады? 2. Якія органы ўлады ўваходзілі ў сістэму якабінскай дыктатуры? 3. Якія эканамічныя і палітычныя мерапрыемствы ажыццявілі якабінцы? 4. Што такое дэхрысціянізацыя? 5. Раскажыце аб якабінскім тэрорьі. 6. У чым заключаліся прычыны падзення якабінскай дыктатуры? 7. Якія абставіны дазволілі генералу Банапарту захапіць уладу?

### § 17. ПАЧАТАК ПРАМЫСЛОВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ Ў АНГЛІІ

ПАНЯЦЦЕ "ПРАМЫСЛОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ". Прамысловая рэвалюцыя — гэта глыбокі пераварот у прамысловай вытворчасці і грамадстве ў цэлым, выкліканы прымяненнем машын. Гэты пераварот ажыццяўляецца ў выніку пераходу ад ручной мануфактурнай працы да машыннай фабрычна-заводскай вытворчасці. Ён суправаджаецца фарміраваннем двух новых грамадскіх класаў — прамысловай буржуазіі і класа наёмных рабочых — пралетарыяту. Прамысловая рэвалюцыя выклікае велізарны рост вытворчасці. Яна карэнным чынам мяняе ўмовы працы і жыцця людзей.

Крыніцай усіх гэтых змен з'яўляецца машына, г.зн. механізм, прызначаны для пераўтварэння энергіі ў карысную работу (ад лац. machina — збудаванне). Выкарыстанне машын складае галоўнае адрозненне фабрык ад мануфактур, дзе машыны не прымяняюцца (фабрыка ад лац. fabricatio — выраб).

Стварэнне і ўкараненне ў вытворчасць машын лічыцца пачаткам прамысловай рэвалюцыі. Завяршаецца прамысловая рэвалюцыя тады, калі самі машыны вырабляюцца не ўручную, а з дапамогай іншых машын, і калі машынная вытворчасць пераважае над ручной. Для ажыццяўлення прамысловай рэвалюцыі заходнееўрапейскім краінам спатрэбілася каля 100 гадоў — з канца XVIII ст. да другой паловы XIX ст.

Пераход да фабрычнай вытворчасці магчымы толькі пры пэўных умовах. Павінен быць дасягнуты дастаткова высокі ўзровень развіцця навукі і тэхнікі, без чаго немагчыма пабудаваць машыну. Для будаўніцтва фабрык неабходны значны пачатковы капітал. Ён ствараецца ў працэсе першапачатковага накаплення (гл.§ 7). Для работы на фабрыках патрабуюцца наёмныя рабочыя. Імі станавіліся сяляне, якія пайшлі ў гарады, і рамеснікі, што разарыліся. Нарэшце, патрэбны вялікі рынак для збыту масы тавараў. Пашырэнне рынку забяспечваў рост насельніцтва, асабліва гарадскога, а таксама павелічэнне міжнароднага гандлю і захоп калоній.

Раней за ўсё прамысловая рэвалюцыя закранае лёгкую прамысловасць. Гэта тлумачыцца тым, што для будаўніцтва фабрык і заводаў у лёгкай прамысловасці патрабаваліся меншыя пачатковыя капіталы, чым у цяжкай прамысловасці. Апрача таго, тавары прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці хутчэй раскупляюцца, а гэта хутчэй дае прыбытак фабрыканту.

У краінах Заходняй Еўропы прамысловая рэвалюцыя распачыналася ў вытворчасці танных баваўняных тканін. На іх быў вялікі попыт. Гэта была параўнальна маладая галіна і тут не было засілля цэхаў з іх манаполіямі і прывілеямі. Аднак заходнееўрапейская баваўняная прамысловасць адчувала моцную канкурэнцыю недарагіх і высакаякасных індыйскіх тканін. Усё гэта прымушала ўладальнікаў баваўняных прадпрыемстваў у Еўропе ўдасканальваць і павялічваць вытворчасць з дапамогай машын.

ПАЧАТАК ПРАМЫСЛОВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ Ў АНГЛІІ. К сярэдзіне XVIII ст. мануфактурная вытворчасць у Англіі дасягнула высокага ўзроўню развіцця. З'явілася шмат спецыяльных прылад, да высокай ступені быў даведзены падзел працы, падрыхтаваны высокакваліфікаваныя рабочыя і механікі.

Шырокае ўкараненне машын у англійскай баваўнянай прамысловасці пачалося ў 60—80-х гг. XVIII ст. З гэтага часу Англія раней, чым усе іншыя краіны, уступіла ў эпоху прамысловай рэвалюцыі. Англія апярэдзіла іншыя краіны па колькасці і якасці прадзільных машын, ткацкіх станкоў, паравых рухавікоў. Гэта давала ёй вялікія перавагі ў барацьбе за сусветныя рынкі. Яе вырабы былі больш танныя і якасныя і іх ахвотна куплялі. У іншых заходнееўрапейскіх краінах прамысловая рэвалюцыя разгарнулася ў пачатку XIX ст.

Стваральнікамі машын у Англіі былі ткачы, прадзільшчыкі, механікі.

ВЫНАХОДСТВА НОВЫХ МАШЫН. Яшчэ ў 1733 г. ткач і механік Дж.Кэй вынайшаў для ткацкага станка так званы лятучы чаўнок. Гэта дазволіла вызваліць аднаго з двух чалавек, якія працавалі ля станка, і вырабляць больш танныя тканіны. Працэс ткацтва паскорыўся.

Гэта прывяло да недахопу пражы і пабуджала да пошуку шляхоў паскарэння і ўдасканалення працэсу прадзення. У 1765 г. ткач Дж. Харгрыўс стварыў механічную прасніцу і назваў яе "Джэні" (па імені дачкі). Яна дазваляла адначасова атрымліваць 15—18 нітак. "Джэні" прыводзілася ў рух рукой. Праз два гады Т.Хайс пабудаваў прадзільную машыну, якая прыводзілася у рух вадой.

Цяпер адставалі ткачы, якія не паспявалі ткаць пражу, што накапілася. У 1785 г. сельскі свяшчэннік Э.Картрайт вынайшаў механічны ткацкі станок. Ён дазволіў паскорыць працэс вытворчасці тканін у дзесяткі разоў.

Велізарнае значэнне для ўсёй эканомікі мела стварэнне механікам Дж. Уатам у 1784 г. паравога рухавіка. Ён мог рухаць любыя механізмы на фабрыках, а затым — на чыгунках і караблях.

ПРАГРЭС У МЕТАЛУРГІІ. Вынаходніцтва машын патрабавала вялікай колькасці металу і паляпшэння яго апрацоўкі. У XVIII ст. быў адкрыты спосаб выплаўкі металу на каменным вугалі (замест драўнянага). У 1735 г. Э.Дэрбі выплавіў чыгун на каменным вугалі, а ў 1750 г. Б.Хантсмен — сталь. Праз 35 гадоў Г.Корт атрымаў жалеза метадам пудзінгавання. Гэта калі ў вадкі чыгун дадаваўся кокс для выдалення з яго вуглярoду і ператварэння ў жалеза.

Палепшылася апрацоўка металу. Былі пабудаваны пракатны стан, такарны станок.

ПЕРАХОД АД МАНУФАКТУРЫ ДА ФАБРЫКІ. Новая тэхніка абумовіла пачатак пераходу да фабрычнай сістэмы вытворчасці. Будаўніцтва фабрык у Англіі пачалося ў 70-х гг. XVIII ст. К пачатку XIX ст. было пабудавана некалькі соцень фабрык і 300 паравых машын. Прамысловая вытворчасць хутка павялічвалася.

Фабрыкі будаваліся паблізу сыравіны і транспартных шляхоў. Тут узнікалі новыя прамысловыя цэнтры. Расла колькасць фабрыкантаў-капіталістаў.

Фарміраваўся клас пралетарыяту. Умовы жыцця рабочых у той час былі цяжкімі. Працаваць даводзілася па 16—18 гадзін у суткі за невялікую зарплату, якой ледзь хапала на ўтрыманне сям'і. Абслугоўванне машын патрабавала вялікага фізічнага напружання, увагі і асцярожнасці, стамляла работніка, які не прывык да фабрычных умоў. Масавы характар набыло выкарыстанне на фабрыках нізкааплатнай працы жанчын і дзяцей. Для барацьбы за свае інтарэсы — перш за ўсё павышэнне заработнай платы і скарачэнне рабочага дня — рабочыя аб'ядноўваліся ў прафесійныя саюзы. З сярэдзіны 60-х гадоў праводзіліся стачкі. Рабочыя пісалі скаргі ў англійскі парламент. Аднак якіх-небудзь адчувальных вынікаў яны не дабіліся. Фабрыканты, якіх падтрымлівала дзяржаўная ўлада, адмаўляліся ісці на ўступкі.

1. Растлумачце змест паняцця "прамысловая рэвалюцыя". 2. Назавіце адзнакі пачатку і завяршэння прамысловай рэвалюцыі. 3. Калі распачалася прамысловая рэвалюцыя ў Англіі? 4. Якія машыны былі вынайдзены? 5. Якія вынаходствы былі зроблены ў металургіі? 6. Назавіце найважнейшыя вынікі пераходу да фабрычнай сістэмы.

Аўтар СІНІЦА В.І.

1 СНЕЖНЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ПРАФІЛАКТЫКІ СНІДу

# МІНУС 5000 — ШТОДНЯ

**Карэспандэнт "НГ" гутарыць з урачом-эпідэміёлагам Рэспубліканскага Цэнтра прафілактыкі СНІДу В.І.Каласоўскім.**

— Віктар Ільіч, 1994 год — год сям'і. Гэта неяк звязваецца з прафілактыкай "чумы XX стагоддзя"?

— Безумоўна! Галоўным выратавальнікам чалавецтва ад СНІДу можа стаць толькі моцная і здаровая сям'я, і толькі яна. Здаровая ў сэнсе не толькі фізічным, а і маральна-этычным. Сусветная арганізацыя аховы здароўя якраз гэта і мела на ўвазе, зрабіўшы лозунгам сёлетняга Дня прафілактыкі тэму "СНІД і сям'я". У гэтым годзе асаблівая ўвага звярталася на сем'і, дзе ёсць ВІЧ-інфіцыраваныя, і наогул на прафілактыку СНІДу ў сям'і. Хаця сям'ю можна разумець у шырокім сэнсе, як любую супольнасць людзей: калектыў на рабоце, нацыю, чалавецтва.

— Нельга не згадзіцца, што менавіта сям'я ў яе традыцыйным, маральным уяўленні — не толькі ўмова матэрыяльнага дабрабыту, не толькі найэфектыўны сродак выхавання, умова псіхічнага здароўя, а і ўмова проста выжывання людзей, маючы на ўвазе СНІД. Як жа вытрымлівае сям'я гэты ўдар?

— Не буду казаць, што для моцных і верных сем'яў праблема СНІДу практычна выключана. Бо большасць шляхоў заражэння усё ж палавыя. У адваротным жа выпадку самы страшны вынік безмаральнасці, нявыхаванасці бацькоў, іх "памылак" — згубленыя лёсы дзяцей. У 1993 годзе каля 700000 дзяцей нарадзіліся ад ВІЧ-інфіцыраваных маці ў адной толькі Афрыцы. Многія з гэтых дзяцей памруць у маленстве. Астатнія застануцца сіротамі. Захаванне моцнай сям'і, як бачым, амаль тоесна захаванню жыцця. Наогул у першай палове бягучага года захворванне на СНІД узрасло на 37% у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года.

— Вось яны, вынікі наступлення на сям'ю...

— Так. Усяго ў свеце каля чатырох мільёнаў носьбітаў віруса, а калі лічыць з пачатку эпідэміі (1981 г.) — іх 15 млн. дарослых і 1 млн. дзяцей. Звяртаю асаблівую ўвагу на красамоўную лічбу: штодзень у свеце рэгіструецца 5000 інфіцыраваных смяротным вірусам. Агульная колькасць заражаных да канца стагоддзя падвоіцца.

— А як у нас на Беларусі?

— На сённяшні дзень у краіне выяўлены 104 носьбіты ВІЧ-інфекцыі, асноўная колькасць якіх прыпадае на Мінск. Большасць гэтых людзей — у самым актыўным узросце, менавіта ўзросце пашырэння кантактаў, знаёмстваў: 71% носьбітаў СНІДу — асобы 20—30 год. Асноўнымі прычынамі, канешне, з'яўляюцца выпадковыя палавыя кантакты (як гетэра-, так і гомасексуальныя), наркаманія.

— А многа сем'яў, у якія пранік СНІД?

— Як я ўжо казаў, сям'я — вельмі трывалая крэпасць і добра вытрымлівае нашэсце СНІДу. На Беларусі ўсяго выяўлена 9 сем'яў, у якіх зарэгістраваны ВІЧ-інфіцыраваныя. Сярод іх адна сям'я, у якой інфіцыраваны і муж, і жонка. Узнагародзіла іх СНІДам замежжа — былі ў замежнай камандзіроўцы. У чатырох сем'ях інфіцыраваная толькі жонка, у чатырох — муж. У гэтых сем'ях нарадзіліся трое ВІЧ-інфіцыраваных дзяцей. Ёсць яшчэ дзве адзінокія маці, заражаныя вірусам, якія далі жыццё дзвюм інфіцыраваным ад нараджэння немаўлятам.

— Як практычна адбываецца выяўленне інфіцыраваных?

— Па-рознаму. У гэтым годзе адна маладая жанчына прыйшла ў бальніцу на перарыванне цяжарнасці, зрабілі аналіз... Другая, сямейная, вырашыла дапамагчы свякрусе, якой зрабілі аперацыю, — здаць для яе кроў. Але, як высветлілася, у нявесткі небяспечнае захворванне. Муж аказаўся здаровым. Мы далі ім рэкамендацыі бяспечнага сексу. Трэба сказаць, што ў ВІЧ-інфіцыраваных маці ў 35—50% выпадкаў нараджаюцца дзеці, таксама заражаныя вірусам. Ёсць маці, якіх гэта не спыняе, і яны ідуць на тое, каб нарадзіць другое дзіця, практычна асуджанае. Нядаўна адна такая маці, памаліўшыся нейкі час, вырашыла, што ёй удалося хуценька адмаліць грахі, радзіла. Папярэдні аналіз паказаў, што немаўля інфіцыраванае. Праўда, канчатковы вынік будзе вядомы праз тры гады, калі мацярынскія антыцелы выйдуць з дзіцяці.

— Нам прыходзілася пісаць ужо аб сацыяльна-псіхалагічных праблемах інфіцыраваных дзяцей. Якія зрухі ў гэтым годзе?

— Як вядома, інфіцыраваныя дзеці атрымліваюць дапамогу ад дзяржавы ў памеры 1,5 мінімальнай зарплаты. Але, безумоўна, усе праблемы матэрыяльнымі не абмяжоўваюцца. Прыходзіцца пераадольваць чалавечае неразуменне і жорсткасць. У нас жыве 10-гадовы інфіцыраваны хлопчык, сям'я якога некалькі год пераехала на Беларусь якраз дзеля таго, каб "перарваць" інфармацыю. Але і ў нас адбылася ўцечка гэтай самай інфармацыі. Быў перыяд, калі бацькі перасталі вадзіць сваіх дзяцей у калгасны дзіцячы сад, у які хадзіў інфіцыраваны хлопчык. Затым такія ж праблемы былі са школай. Але мы правялі тлумачальную работу, дапамаглі настаўнікі — і сітуацыя, здаецца, нармалізавалася.

— Наогул, у вас раней былі крыўды, што школа недастаткова прымае ўдзел у антыснідаўскай прапагандзе. Як зараз?

— 20 снежня мінулага года была прынята пастанова Савета Міністраў аб мерах па прафілактыцы СНІДу. Гэта, напэўна, стала пераломным момантам у стаўленні да праблемы СНІДу адукацыйных устаноў. У пастанове Саўміна акрэслены шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку і для Міністэрства адукацыі. У адпаведнасці з гэтым Міністэрства адукацыі ў бягучым годзе распрацавала, у сваю чаргу, мерапрыемствы, якія даведзены да ведама абласных упраўленняў адукацыі, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў і інш. Справа зрушылася, хаця і не паўсюль. Ёсць раёны і ўстановы, дзе яшчэ быццам "саромеюцца" распачынаць антыснідаўскую адукацыю.

— Віктар Ільіч, ці адчуваецца наогул вынік вашай работы?

— Аб гэтым цяжка казаць. Тое, што мы дапамагаем інфіцыраваным — гэта натуральна. Трэба яшчэ адзначыць, што ў гэтым годзе ўпалі тэмпы выяўляльнасці інфіцыраваных. Тут можа быць комплекс прычын. Але тое, што прапаганда спрацоўвае, несумненна. Хаця святкаваць рана. Мы толькі тады пераможам, калі наша грамадства стане адзінай сям'ёй, адзінай крэпасцю на шляху СНІДу.

Іван СОТНІКАЎ.

## Жартаўлінкі

— Які час лепшы для ўборкі яблыкаў? — пытаецца на ўроку настаўнік.
— Вучань:
— Калі сабака ў будцы спіць.

* * *

— Чаго гэта ты падрапаны? — пытаецца Коля ў Сярожкі.
Сярожка адказвае, што тата купіў яму коціка.
— А я вось не падрапаны, мой Чорны разумненькі
— Гэ, дык жа ты свайго не выкручваў і не сушыў!

* * *

На рынку, дзе прадаюць мяса.
— Бабуля, гэты заяц свежы?
— Ага ж. Учора ён яшчэ мышэй лавіў.

* * *

Сяброўка да сяброўкі:
— Твой жаніх вадзіцель?
— Так. Другі год за нос водзіць.

* * *

Жонка адпраўляе на курорт мужа:
— А чаму ты не ўзяў з сабою шлюбнае кальцо?
— У такую спякоту?..

* * *

— Далучаюся да думкі Сяргея Сяргеевіча.
— Але ж ён яшчэ не выступаў.
— Прабачце, я вазьму слова пасля яго.

* * *

— Мне да дырэктара школы.
— Ён праводзіць пяціхвілінку. Зайдзіце... пасля абеду.

* * *

Хлопчык — бацьку:
— Гэты дзядзька, мабыць, настаўнік.
— Як ты здагадаўся?
— Таму што пакуль сеў, вельмі ўважліва агледзеў крэсла.

Алесь БЯРЖЫНСКІ.

Васіль ЖУКОВІЧ

# Шчырасць, любасць, чысціня

**У нашай даволі шэрай рэчаіснасці ёсць яшчэ асяродкі і астраўкі, дзе людзі дбаюць пра харaство і дасканаласць, пра багацце духоўнае. У Оршы, напрыклад, працуе Цэнтр дзіцячай творчасці, а ў ім — гурток юных паэтаў. Поспехі яго — прыкметныя. Кіруе гуртком Марыя Міхайлаўна Дзмітранок.**

Спадзяюся, калі-небудзь на старонках газеты кіраўніца гуртка падзеліцца вопытам, раскажа чытачам пра свой — такі цікавы! — занятак, пра тое, якія пачуцці ў дзяцей фарміруе і развівае творчасць, як дзеці мяняюцца пад яе ўплывам, хто з іх вырастае. А пакуль сёе-тое скажу я. Рэспубліканскім цэнтрам эстэтычнага выхавання дзяцей летась быў абвешчаны конкурс на лепшыя творы для дзяцей. (Дарэчы, цяпер падводзяцца вынікі гэтага конкурсу). У ім бралі ўдзел як прафесійныя паэты, так і пачаткоўцы. Незалежна ад вынікаў конкурсу прызнаюся: уражваюць юныя паэты Оршы. Хай сабе не ўсё ў іх творах дасканалае: то пракінецца русізм, то з верша ўцячэ рыфма... Але ж мяне яны парадавалі. Чым менавіта? Найперш сваімі пачуццямі — шчырасцю, любасцю, — іх чысцінёй. У час, калі пад маскамі і без масак дзейнічаюць д'яблы і растуць сатанінскія сілы, неяк асабліва ўспрымаюцца харaство, чысціня, праявы чалавечай любові.

Цешыць тое, што дзеці пішуць пра самае блізкае, дарагое, са шчырай радасцю пішуць і са шчаслівай тугою. Шмат хто з іх з пачуццём замілаванасці глядзіць на прыроду.

Спіць блакіт.
А заўтра ўстане сонейка,
І над нашай роднай Беларуссю,
Ветлівай, пяшчотнай, ручаёвай,
Ціха паляціць ружовы бусел.

Гэтыя радкі, заключны акорд верша "Вечарэе...", належаць Волі Шаўлінскай, шасцікласніцы з 20-й школы. Нехта можа запярэчыць: як гэта — ружовы бусел, калі ў прыродзе існуюць толькі белыя і чорныя буслы? А хіба белы снег не здаецца часам блакітным, а часам ружовым? А празрыстая вада ці не здаецца іншы раз сіняй-сіняю? Зялёнаю? Чорнаю? Якраз вобраз ружовага бусла і надае адметнасць вершу. І сведчыць ён пра назіральнасць юнай паэткі. А якая прыгожая ў яе Беларусь! Яна — ветлівая, пяшчотная, а яшчэ ручаёвая, хоць мы і прывыклі чытаць, што яна — рачная, лясная, азёрная...

Незвычайнай светлынёю вабіць яшчэ адзін верш Волі Шаўлінскай — "Восень-чараўніца...". Вось яго першае і апошняе чатырохрадкоўі:

Восень-чараўніца
Радуе прастор:
Дорыць розным дрэвам
Залаты убор.

І сама спявае
Песні, хай без слоў,
Звонам дробных кропляў,
Шолахам лістоў...

Васьмікласніца з 1-й школы Алена Найдзёнава паспрабавала стварыць больш складаны вобраз восені:

В плиссированной юбке дождя,
В серой шляпе, в плаще
из тумана,
К нам нечаянно осень зашла,
Взглядом жёлтым окинув
поляны.

Воля Анісовіч, вучаніца чацвёртага класа 6-й школы, шасцю радкамі перадала свае пачуцці, выкліканыя чарадзейкай вясною:

Вясна. Адліга на двары стаіць.
А сонейка ласкава так глядзіць!

Праменьчыкам пагладзіла
сняжок —
І зазвінеў свавольнік ручаёк.

Бяжыць і серабрыста напявае,
Пра свята мамы мне напамінае.

Ёсць у Волечкі і свая "Зіма". Спачатку юная аўтарка паказвае знаёмы ўсім жыхарам Беларусі малюнак:

Неба ў снежні слёзы лье —
Снег бялюткі растае.
І сумуюць дзеці горка:
Калі ж пойдзем мы на горку?

Але ўначы прыйшоў мароз, прыляцеў вецер — і ўсё наўкол змянілася:

Неба болей слёз не лье —
Цяпер снег не растае!
І да цёмнае пары
Смех дзіцячы на двары.

У вершы "Надыход вясны" Дзіны Астахавай, дзевяцікласніцы з 5-й школы, таксама прысутнічае дзіцячы смех. І гэта радуе, але яшчэ больш радуе яе лірычны малюнак, створаны мілагучнымі радкамі:

Спяваюць вясёлыя птушкі,
Бярозавы вецер плыве,
Смяюцца сынкі і дачушкі,
Збіраючы кветкі ў траве.

Аксана Барысава, дзевяцікласніца з 6-й школы, магчыма, не чытала і не чула "Калыханкі маме" Ніны Мацяш, верша, які дзякуючы цудоўнай музыцы Інэсы Вінаградавай даўно стаў вядомай песняй. Яна стварыла сваю эмацыянальную "Калыханку маці" (маці — у сэнсе: маме). Вось яна (друкуецца ў скарачэнні):

Звечарэла. Ты ў крэсле сядзіш.
На экране смяюцца, гамоняць.
Ты ж не бачыш нічога—ты спіш,
На калені паклаўшы далоні.

Натаміліся рукі твае.
Сон кранае усмешкаю губы.
Можа сніцца дзяцінства табе?
А мо сніцца каханы твой,
любы?

За акном растае белы снег.
Я з табою прысяду таксама.
Ты прыгожая, мама, і ў сне.
Мая мілая, любая мама!

Наташа Нудная, дзесяцікласніца 3-й школы, напісала белы (нерыфмаваны) верш пра матулю, якая ўстае разам з сонцам, і пра хлопчыка, які, прачнуўшыся пазней за матулю, не пазнаў сваю кватэру, бо маці прыбрала ў ёй і, акрамя таго, наварыла смачных страў. У канцы верша гучыць простае і мудрае матчына слова.

Усміхаецца матуля:
"Калі з сонцам устаеш,
Многа зробіш, мой сыночак,
І спазнаеш радасць ты".

Думаю, тут будзе дарэчы змясціць верш кіраўніцы гуртка юных аршанскіх паэтаў — Марыі Дзмітранок.

### Я — ПЕРШАКЛАСНІЦА

**Аленцы КОТАВАЙ**

"Не праспі! — казытала мне вушка
Жартаўніца-гарэза падушка.

"Я чакаю цябе!" — гаварыла
Мне сукенка, што маці купіла.

"Я паўнюткі!" — смяяўся мой ранец. —
Адпачні, супакойся да раніцы.

"Як дажыць нам да раніцы, дзетка?" —
Сумавалі ў букецiку кветкі...

Як ніколі, я раненька ўстала: Дзіва што
— першакласніцай стала!

Прыемна, што кіраўніца гуртка — не выпадковы ў цэнтры чалавек. Як бачым, яна ўмее цікава напісаць, ашчадна ставячыся да слова, умее прывабіць увагу чытачоў і слухачоў.

Міраславу Мамонічу — 13 гадоў. А вершы яму ўдаюцца розныя: прыродаапісальныя (напрыклад, "Бабіна лета") і тыя, у якіх паказваецца сялянскі побыт ("Вясковая раніца"), а яшчэ — гумарыстычныя. Ды шкада, што верш "Штангіст" атрымаўся ў пэўнай меры запазычаным. Прынамсі герой верша "Самы горшы вучань Вася" узяў ды надта нагадаў мне героя аднаго з вершаў Міколы Чарняўскага, а памянёны радок пра вучня Васю так падобны на радок Міколы Чарняўскага "Чэмпіён па двойках Вася!" Толькі, вядома, "чэмпіён па двойках" гучыць больш дасціпна, чым "самы горшы вучань". У майстроў вучыцца трэба, ды пераймаць іх не варта. Верш цікавы той, у якім ёсць адкрыццё, т в а ё, а не чужое.

Уражвае белы верш Ані Сасноўскай (10-я школа) "Пра Роя". Пра сабаку.

Наташа Сафронава вучыцца таксама ў 10-й школе, цяпер яна — шасцікласніца. Наташын узрост юны, але яе, дзяўчынку, хвалююць вялікія праблемы, ёй хочацца бачыць у свеце суладдзе, гармонію, справядлівасць. Прачытайце, калі ласка, яе верш "Разговор со звездой".

Однажды со звездного неба
Упала большая звезда,
И я загадала желанье:
Чтоб не было войн никогда,
Чтоб дети повсюду смеялись,
Чтоб мамы не ведали слёз,
Чтоб солнце над ними сияло
И было чудесно от звёзд.
Звезда подлетела поближе,
Шепнула приветливо мне:
— Не бойся, когда-нибудь будет
Всё это на нашей Земле!

На гэтай ноце хацелася скончыць гамонку. Ды ўспомнілася прасякнутае добрым клопатам пытанне кіраўніцы гуртка Марыі Дзмітранок: "А мо вы дапаможаце выпусціць кнігу вершаваных твораў маіх дзетак?" Цяпер я звяртаюся да вас, паважаная Марыя Міхайлаўна. Большасць кніг у нас і ў гады застою рухалася да чытача даволі марудна. А цяпер, пакуль выдасі кнігу падлетка, у яго можа вырасці вялікая барада. Раю Вам звяртацца ў перыядычныя выданні — газеты і часопісы, найперш у дзіцячыя ды юнацкія, дзе працуюць і кіруюць, як правіла, пісьменнікі. Не так ужо і далёка Орша ад Мінска. Прыязджайце і прыносьце ў рэдакцыі вершы вашых выхаванцаў: што ў "Вясёлку", што ў "Бярозку", а што і ў "Першацвет". Тут Вам дапамогуць ацаніць і падтрымаць усе таленты. Зычу ўсім вам добрых поспехаў.



Фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта

ПАВЕДАМЛЯЕ,

што 15 снежня 1994 года а 14-й гадзіне ў актавай зале ўніверсітэта (корпус 3, паверх 2) адбудзецца святкаванне 20-годдзя факультэта.

Сардэчна запрашаем выпускнікоў на свята роднага факультэта.

АРГКАМІТЭТ.

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ.

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выдавецтва "Полымя" (220004, Мінск, праспект Машэрава, 11).

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: праблем выхавання — 36-43-62, 36-41-55; школ — 36-90-63; органаў кіравання — 36-43-71; сацыяльных праблем; ВНУ і тэхнікумаў — 36-41-55; прафтэхадукацыі; пісьмаў і навін; культуры — 36-44-25

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказная дзяжурная Святлана БЕНЬ.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку."
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны,79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №97
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 19 11 12
Падпісана да друку 29.11.94 г. у 18.10
Наклад 51.374 паасобнікі.